

“Каб усе былі адно” (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (54), 2007
15.06.07 - 15.10.07

ВОСЕНЬСКІЯ ДЗЯДЫ



БИВЛИЯ РОУСКА
выложена доктором
францискомъ скориною
изславного града по
лоцька, богу ко чти и
людемъ посполитымъ
к доброму научению

## Скарынаў дар

**490 гадоў таму, у Празе, ДОКТАР ФРАНЦІШАК СКАРЫНА з Полацку пачаў друкаваць БІБЛІЮ. Надрукаваная ім кніга Псалтыр стала першай беларускай друкаванай кнігай.**

Сваю асьветніцкую працу для нашага народу Францішак Скарына распачаў 6 жніўня 1517 году. Пэўна, гэты дзень быў абраны ім невыпадкова, бо 6 жніўня ў царкоўным календары – сьвята Перамяненьня (Спас). Вось жа, будучы шчырым, пабожным хрысьціянінам і адданым сынам сваёй Бацькаўшчыны, добра ведаючы ўсе яе беды і праблемы, праз сваё выданьне Бібліі наш асьветнік заклікаў да перамяненьня тагачаснага грамадзтва, чалавека і ўсёй Царквы. На ўсе праблемы гэтага сьвету Ф.Скарына прапаноўваў глядзець праз сьвятло Бібліі, праз Слова Божае. І для гэтага ён зрабіў даступнай яе для люду простага. Кніга Псалтыр мела служыць ня толькі, каб людзі па ёй грамаце вучыліся, а каб адкрывалі вялікія, схаваныя ў ёй скарбы: “Суть бо в ней псалмы, ...всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють”.

Кім ён быў, наш беларускі асьветнік? Яго імя – Францішак – яўна заходняй, лацінскай традыцыі, але ж бацька – полацкі купец Лука – і старэйшы брат Іван мелі хутчэй тыпова праваслаўныя імёны. Несумненна, што Ф.Скарына ведаў лацінскую традыцыю, бо яму давялося доўгі час жыць і вучыцца ў каталіцкім асяроддзі ва ўніверсітэтах Кракава і Падуі. Ён быў сакратаром і лекарам у Віленскага каталіцкага біскупа Яна з князёў літоўскіх. Урэшце, Скарына ажаніўся ў Вільні з удавою каталіцкага веравызнаньня Маргарытай... І тым ня менш, толькі чалавек, які добра ведаў, любіў і ўвесь час жыў усходняй літургічнай традыцыяй, мог укласьці й выдаць “Малую падарожную кніжку” – першы ў Беларусі (і ня толькі) друкаваны малітаўнік для сьвецкіх вернікаў.

*Працяг на с.20* ⇨



• *Маладэчна, 17.06.2007. Хіратонія а. Яўгена Ўсошына (у цэнтры) – першага беларускага грэка-каталіцкага сьвятара, высьвячанага на Бацькаўшчыне.*

*“Зьмяняюцца Менск, Масква, нашыя гарады і вёскі, але гэта ня ўсё. Трэба, каб зьмяніўся чалавек, каб ён стаў на новыя «рэйкі» Евангельля, каб ён угрунтаваў сваё жыцьцё на Божым Праве... З аднаго боку мы бачым росквіт духоўнасьці, а з другога – як многа працы трэба прыкласьці ў змаганьні з сіламі зла, якія прыходзяць у нашае жыцьцё. Мы бачым, колькі працаў павінен укласьці сёньняшні чалавек, каб сілы цемнаты не перамаглі нас у гэтай барацьбе. Чалавек пачынае ставіць сябе на месца Бога. Ён сам устанаўлівае маральнае права, якое ў выніку становіцца заўсёды драматычным.”*

*З казаньня Архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча падчас урачыстасьці каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай у Гудагаі, 15.07.2007.*

## У нумары:

# Грэка-каталіцкі сьвятар упершыню высьвячаны ў Беларусі



• 17.06.2007, Маладэчна. Айцец Яўген Усошын (зьлева) дзякуе грэка-каталіцкім уладыкам за ўдзяленьне яму Тайны сьвятарства.

***Дзень 17 чэрвеня 2007 году ўвайшоў у гісторыю Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы: пасьля больш чым 150-гадовага перапынку на беларскай зямлі быў высьвячаны грэка-каталіцкі сьвятар.***

Дагэтуль рукапакладаньне сьвятароў для адроджанай БГКЦ адбывалася за межамі Беларусі – як правіла, ва Ўкраіне або ў Польшчы. Нават у міжваенны час, у часы так званай неауніі, хіратонія грэка-каталіцкіх сьвятароў-беларусаў адбывалася па-за межамі Бацькаўшчыны (у Папскай Усходняй семінарыі ў Дубне на Валыні, у Львове або ў Рыме).

Гэтым першым, высьвячаным у Беларусі грэка-каталіцкім сьвятаром стаў айцец Яўген Усошын з Менску, якога з бласлаўленьня Ўладыкі Ўладзіміра Вітышына, рукапаклаў Уладыка Багдан Дзюрах, дапаможны біскуп Кіеўскай архіяпархіі УГКЦ *(на фота ў цэнтры)*. Хіратонія адбылася ў Маладэчна, у грэка-каталіцкай парафіі Хрыста-Чалавекалюбца. З Уладыкам Багданам саслужылі Экзарх Пражскі Ўладыка Ладыслаў Гучка з Чэхіі, архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар для грэка-каталікаў Беларусі, дэкан Цэнтральна-Заходняга протапразьбітарату а. Андрэй Абламейка, а таксама менскі сьвятар а. Андрэй Буйніч і дыякан Алесь Шыбека.

Айцец Яўген Усошын нарадзіўся ў Менску 18 лютага1976 году. У 1998 годзе скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту, а ў 2004-ым – Івана-Франкоўскую тэалагічную акадэмію. Сьвятарскую фармацыю атрымліваў у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Драгічыне (Польшча). Абараніў магістарскую працу на Папскім тэалагічным факультэце ў Варшаве па тэме "Жыцьцё і дзейнасьць а. Антона Неманцэвіча". Працуе над дактаратам па гісторыі Царквы.

17 сьнежня 2006 г. быў рукапакладзены на дыякана Ўладыкам Сафронам (Мудрым) у Івана-Франкоўску (Украіна). Жанаты.

У слове падзякі, які новасьвятар скіраваў да Бога і вернікаў пасьля сваіх сьвячаньняў у Маладэчна, айцец Яўген зазначыў, што прагне, каб словы эпіклезы (малітвы да Бога Айца з просьбай аб спасланьні Духа Сьвятога на ўсіх малельнікаў, каб Ён зьяднаў і асьвяціў вернікаў), якія прамаўляў над ім Уладыка Багдан падчас рукапакладаньня, распаўсюдзіліся таксама на ўсю Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву.

**а. Андрэй БУЙНІЧ**, *г. Менск*

# Разам на шляху веры ў сьвятле Евангельля

## XIII ПІЛІГРЫМКА ВІЦЕБСК-ПОЛАЦАК

***З 11 па 15 ліпеня 2007 году адбылася XIII штогадовая Пілігрымка беларускіх грэка-каталікоў. У нядзелю, 15 ліпеня, яна завершылася ў Полацку, каля сьценаў грэка-каталіцкага храму сьв. Параскевы Полацкай. За 4 дні каля васьмі дзясяткаў пілігрымаў прайшлі шлях з Віцебску – месца мучаніцкай сьмерці сьвтамучаніка Язафата – у Полацак – месца мучаніцкай сьмерці Полацкіх Пакутнікаў 1705 году.***



• Полацак, 15.07.2007. Боская Літургія на завяршэньне пілігрымкі.

Пілігрымка была адной з найважнейшых душпастырскіх ініцыятываў 2007 году, які ў БГКЦ адзначаецца як "Год веры". Таму дэвіз і тэма сёлетняй XIII-ай Пілігрымкі быў такі: "Дзе вера – там і моц (сьв. Ян Залатавусны). Разам на шляху веры ў сьвятле Евангельля". Гэтая тэма ўпісвалася ў агульную душпастырскую тэму, якую на 2007 год вызначыла Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі: "Усе пакліканы да сьвятасьці".

Пілігрымка прайшла традыцыйным шляхам праз Слабаду, Шуміліна, Обаль, Гараны, Струньне. На сваім шляху штодзень пілігрымы маліліся ў адмысловых інтэнцыях і духовых патрэбах: у сераду – за моладзь Беларусі, у чацьвер – за беларускія сем'і (за сьвятасьць сем'яў), у пятніцу – за сьвятасьць сьвятароў і дыяканаў БГКЦ, у суботу – за духовы рост Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

У старажытны Полацак пілігрымы прыйшлі ў суботу, 14 ліпеня. Увечары ў храме адбылася Вячэрня з удзелам пілігрымаў. У нядзелю, пасьля ранішняй Ютрані, у 10.30 распачалася Боская Літургія, якую ўзначаліў Апостальскі Візітатар для грэка-каталікоў у Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) у саслужэньні двух протапразьбітараў (дэканаў) БГКЦ: а. Андрэя Абламейкі з Менску (Цэнтральна-Заходні протапразьбітарат) і ераманаха Лявонція (Тумоўскага) з Полацку (Усходні протапразьбітарат), а такасама сьвятароў двух абрадаў з Беларусі і замежжа. Сярод ганаровых гасьцей быў ігумен манахаў-студытаў з Сьвята-Усьпенскай Уніўскай Лаўры (Украіна).

Паколькі ўсе прысутныя не змаглі зьмясьціцца ў невялічкай царкве, Літургія адбывалася на двары, пад праліўным дажджом. Нягледзячы на непагадзь, удзельнікі адчувалі дабрадатнае дзеяньне Божай ласкі і духоўна яднаіся з братамі лацінскага, або рымскага, абраду, сабранымі ў Гудагаі на каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Шкаплернай.

Гэтую духоўную еднасьць асабліва падкрэсьліў у сваім Пасланьні, скіраваным да ўдзельнікаў XIII пілігрымкі беларускіх грэка-каталікоў, Апостальскі Нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відавіч. Пасланьне было зачытана адначасова перад Боскай Літургіяй у Полацку і напрыканцы каранацыйнай сьвятой Імшы ў Гудагаі. *(Гл. тэкст Пасланьня Нунцыя на с. 14).*

У гаміліі падчас Боскай Літургіі Апостальскі Візітатар прывітаў усіх удзельнікаў урачыстасьці і выказаў падзяку братам праваслаўным і пратэстантам (асабліва тым, што прысутнічалі на ўрачыстасьцях) за іх

# Новы прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў

***9 чэрвеня 2007 году Папа Бенядыкт XVI прызначыў аргентынскага архібіскупа Леанарда Сандры, які да гэтага быў намесьнікам Дзяржсакратара Ватыкану, новым Прэфектам Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.***



• *Архібіскуп Леанарда Сандры падчас беатыфікацыйнай сьв. Імшы.*

Сьвяты Айцец выказаў асаблівую ўдзячнасьць былому Прэфекту 77-гадоваму кардыналу Ігнату Майсею І Дауду, які склаў на імя Папы заяву з просьбай вызваліць ад спаўненьня абавязкаў Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў з прычыны ўзросту. Патрыярх на спачынку Ігнат Майсей І з Сірыйскай Каталіцкай Царквы ўзначальваў Кангрэгацыю Ўсходніх Цэркваў на працягу 7 гадоў з лістападу 2000 году. У 2001 годзе ён быў галоўным ініцыятарам візіту Папы Яна Паўла ІІ у Сірыю, аднак у тым самым годзе ня змог разам з Папам узяць удзел у падарожжы Папы ў Афіны з прычыны адмоўнага стаўленьня да яго, як прадстаўніка адной з усходніх каталіцкіх Цэркваў, ярархіі Праваслаўнай Царквы Грэцыі.

Новапрызначаны Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў архібіскуп Леанарда Сандры, каментуючы сваё прызначэньне, адзначыў: «Я ўсьведамляю, што Сьвяты Айцец даверыў мне скарб літургічнай малітвы, духоўныя традыцыі, жыцьцё манаства, жыцьцё шматлікіх сьвятых, навуку айцоў і дактароў Усходняй Царквы». «Я ізноў выказваю абсалютную вернасьць просьбам і ўказаньням Пераемніка Пятра і вікарыю Хрыста»,– дадаў ён.

Архібіскуп Сандры нарадзіўся ў Аргентыне, у Буэнас-Айрэсе, 18 лістапада 1943 году ў сям'і італійскіх эмігрантаў. У 1967 годзе ў 24 гады быў высьвячаны на сьвятара ў архіяпархіі Буэнас-Айрэсу. Вывучаў тэалогію ў Каталіцкім універсітэце Аргентыны, атрымаў ступень доктара кананічнага права пасьля студыяў у Папскім грыгарыянскім універсітэце ў Рыме.

У 1974 годзе Леанарда Сандры быў прыняты на дыпламатычную службу ў Ватыкан, працаваў у нунцыятуры ў Мадагаскары да 1977 году, а затым, з 1977 па 1989 год – у Дзяржаўным сакратарыяце Ватыкану. З 1989 па 1991 год ён зьяўляўся дарадцам Апостальскага нунцыя ў Злучаных Штатах Амерыкі і ў Арганізацыі Амерыканскіх дзяржаў.



• *Новы Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў архібіскуп Леанарда Сандры.*

У 1997 годзе ён быў хіратанізаваны на архібіскупа і прызначаны Апостальскім нунцыем у Венесуэле. У сакавіку 2000 году быў прызначаны Апостальскім нунцыем у Мексіцы, а ўжо ў верасьні таго ж году яму было прапанавана заняць пасаду намесьніка Дзяржсакратара Ватыкану па агульных пытаньнях.

У апошнія месяцы жыцьця Папы Яна Паўла ІІ, які пасьля перанесенай аперацыі ня мог гаварыць, архібіскуп Леанарда Сандры стаў «голасам Папы» — менавіта ён чытаў для вернікаў казаньні хворага Папы.

Акрамя гішпанскай, архібіскуп Сандры валодае італійскай, францускай, ангельскай і нямецкай мовамі.

Як зьверхнік адной з Кангрэгацыяў Ватыкану, чакаецца, што архібіскуп Леанарда Сандры атрымае годнасьць кардынала на наступнай кансісторыі, што мае адбыцца ў лістападзе.

Свае абавязкі новы Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў архібіскуп Леанарда Сандры пачаў выконваць з 1 ліпеня 2007 году. З гэтага часу беларускія грэка-каталікі, якія сёньня наўпрост падпарадкаваныя Апостальскай Сталіцы, падчас кожнай Боскай Літургіі ўзгадваюць у малітвах як свайго Архіпастыра архібіскупа Леанарда.

---

малітоўную салідарнасьць. Словы пашаны і прывітаньні Архімандрыт Сяргей скіраваў і да высокіх прадстаўнікоў дзяржаўных, абласных і гарадзкіх уладаў. *(Слова Апостальскага Візітатара гл. на с. 6-7).*

Урачысты характар сьвяточным багаслужбам надалі прыгожыя сьпевы ў выкананьні менскага міжпарафіяльнага грэка-каталіцкага хору пад кіраўніцтвам студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Марыі Янушкевіч. Яна зусім нядаўна займаецца з гэтым маладым – і па часе існаваньня, і па ўзросьце ўдзельнікаў – хорам, але сьпевакі-энтузіясты ўжо дасягнулі заўважных посьпехаў.

Пасьля цалаваньня сьвятога крыжа напрыканцы Літургіі неба над Полацкам праясьнела і з яго глянула цёплае летняе сонца, што хутка высушыла зямлю і змоклых удзельнікаў сьвята.

*(Гл. таксама матэрыялы пра пілігрымку на с. 10-11).*

# Новыя сьвятары БГКЦ

***28 жніўня 2007 году Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква атрымала яшчэ двух новых сьвятароў.***



• *Новасьвятар а. Алесь Шыбека.*

На Ўкраіне, у дзень сьвята Ўсьпеньня Найсьвяцейшай Багародзіцы паводле юльянскага календара, у Сьвята-Ўсьпенскай Лаўры манахаў-студытаў, што ў Уніве, біскуп-эмерыт з Івана-Франкоўску Сафрон Мудры, OSBM, высьвяціў на сьвятара Алеся Шыбеку з Воршы, а таксама ўдзяліў дыяканскія сьвячаньні Васілю Ягораву з Магілёва.

На гэтай радаснай для нашай Царквы падзеі прысутнічалі беларускія грэка-каталіцкія семінарысты, для якіх у манастыры манахаўстудытаў у Уніве быў арганізаваны літургічна-музычны курс, і група вернікаў з Беларусі, якія бралі ўдзел у пілігрымцы, урачыстым завяршэньнем якой стала хіратонія новых беларускіх і украінскіх сьвятароў і дыяканаў. За новых сьвятароў БГКЦ на сьвяточнай Боскай Літургіі ў Уніўскай Лаўры маліліся Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), Дэкан Усходняга дэканату БГКЦ імя сьв. Язафата ераманах Лявонці (Тумоўскі) з Полацку, душпастыр з Магілёву а. Пётр Мартэн ды а. Алесь Шаўцоў з Горадні.



• *Новы дыякан Васіль Ягораў.*

*(Фота з сьвячаньняў у Уніве гл. на с. 20)*

# Новы Архіпастыр

## РЫМА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ Ў БЕЛАРУСІ

***21 верасьня 2007 году Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI прызначыў рыма-каталіцкім архібіскупам Мітрапалітам Менска-Магілёўскім Яго Эксцэленцыю архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які да гэтага часу зьяўляўся Мітрапалітам архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве (Расейская Федэрацыя).***

Архібіскупам Мітрапалітам рыма-каталіцкай архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве прызначаны мансіньёр Паола Пэццы, які да гэтага часу займаў пасаду рэктара Вышэйшай духоўнай семінарыі "Марыя Каралева Апосталаў" у Санкт-Пецярбургу.



У сваім звароце з нагоды прызначэньня ў Беларусь архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў: "Каталіцкі Касьцёл – гэта Сусьветны Касьцёл, якім кіруе наступнік сьвятога апостала Пятра. У волі Папы Рымскага я заўсёды бачыў і сёньня бачу волю самога Бога. Гэта – крэда майго сьвятарскага і біскупскага служэньня. Таму з пачуцьцём велізарнай адказнасьці я прымаю новае прызначэньне, якое вяртае мяне ў родную Беларусь. Я вяртаюся, каб далей працягнуць распачатае 18 гадоў таму назад служэньне першага біскупа на Беларусі ў сучаснай яе гісторыі і – з вялікай удзячнасьцю – тую вялікую і неацэнную працу, якую выканаў у Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі і ў Касьцёле на Беларусі Сьведка веры кардынал Казімір Сьвёнтэк і ў апошні год – Апостальскі Адміністратар біскуп Антоні Дзям'янка".

Уладыка Кандрусевіч выказаў таксама шчырую надзею на супрацоўніцтва з прадстаўнікамі іншых канфесій і рэлігій, асабліва з праваслаўнымі. "Усе мы пакліканыя садзейнічаць адраджэньню і ўмацаваньню духоўнасьці ў нашай краіне, а таксама разьвіцьцю дыялогу як паміж намі, так і з грамадзтвам",– падкрэсьліў у сваім звароце новапрызначаны Архіпастыр Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі.

26 верасьня 2007 году адбылася сустрэча новапрызначанага рыма-каталіцкага архібіскупа Мітрапаліта Менска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча са Старшынёю Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Леанідам Гулякам. Падчас сустрэчы абодва бакі выказалі гатоўнасьць да канструктыўнага дыялогу і ўзаемадзеяньня на карысьць грамадзтва. Пры гэтым ахрібіскуп Т.Кандрусевіч падкрэсьліў, што хоць "Касьцёл – ня з гэтага сьвету, але існуе ў сьвеце", таму ня можа быць адарваным ад надзённых праблемаў і выклікаў сучаснасьці. Таксама ён адзначыў, што, як Царква існуе для людзей, таксама і ўлада павінна ўсё рабіць на карысьць грамадзтву.

Цырымонія ўрачыстага ўваходу ў менскую архікатэдру новапрызначанага рыма-каталіцкага ярарха Мітрапаліта Менска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча адбудзецца ў суботу, 10 лістапада 2007 году.

# X Велеградзкі тэалагічны кангрэс:

## "ДА БОЛЬШ ГЛЫБОКАЙ САЛІДАРНАСЬЦІ ПАМІЖ ХРЫСЬЦІЯНАМІ ЕЎРОПЫ"

***Пад такім дэвізам з 28 чэрвеня па 1 ліпеня 2007 году праходзіў X Юбілейны тэалагічны кангрэс у Веляградзе (Чэхія). Патранат над Кангрэсам прынялі архібіскуп Аламоўцкі Ян Граўбнэр і Вярхоўны Архібіскуп Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы кардынал Любамір Гузар (якога на Кангрэсе прадстаўляў архібіскуп Львоўскі Ігар Возьняк). Сярод 150 удзельнікаў Кангрэсу было 35 грэка-каталіцкіх, рыма-каталіцкіх і праваслаўных ярархаў. З беларускіх каталіцкіх ярархаў у X Веляградзкім кангрэсе ўдзельнічаў архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі.***

Кангрэс праходзіў з нагоды 100-ых угодкаў І-га Веляградзкага ўнійнага кангрэсу, які быў праведзены ў 1907 годзе па ініцыятыве мітрапаліта Львоўскага Андрэя Шаптыцкага і архібіскупа Аламоўцкага Антаніна Кірылы Стояна ў кантэксьце адраджэньня традыцыі сьвятых Кірылы і Мятода (у XIX стагоддзі яго распачалі біскуп Марыбору (Славенія) Антанін Сломшак і архібіскуп Дзякава (Харватыя) Ёсіп Штросмаер).

На пачатку XX стагоддзя, у кантэксьце Веляградзкіх кангрэсаў, кірыла-мятодаўская спадчына (традыцыя) стала для многіх тэолагаў, каталіцкіх і праваслаўных (Сяргей Булгакаў, Аляксей Мальцаў, Антон Карташоў), натхненьнем да пошуку шляхоў прымірэньня паміж Цэрквамі, асабліва славянскімі.

Веляградзкімі кангрэсамі амаль ад самага пачатку цікавіліся беларускія тэолагі (сярод іншых а. Фабіян Абрантовіч, біскуп Зыгмунт Лазінскі, кс. Уладзіслаў Талочка, кс. Казімір Кулак, а. Антон Неманцэвіч, а. Андрэй Цікота). У V Веляградзкім кангрэсе ў 1927 актыўна ўдзельнічаў а. Андрэй Цікота з кляштару айцоў марыянаў у Друі. Унійныя ідэі Веляградзкіх кангрэсаў знайшлі тэалагічны і душпастырскі водгук у Львове і Пінску. Асаблівым ягоным працягам былі Пінскія ўнійныя канферэнцыі, што праходзілі ў 30-х гадах мінулага стагоддзя пад патранатам Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага.

Практычнай арганізацыяй сёлетняга X Веляградзкага кангрэсу заняліся Інстытут экуменічных дасьледаваньняў Украінскага каталіцкага ўніверсітэту ў Львове і езуіцкі Дасьледчы цэнтр *Centro E. Aletti* (Рым-Веляград).

X Веляградзкі кангрэс меў экуменічны характар. Дакладчыкі і ўдзельнікі кангрэсу прадстаўлялі Грэка-Каталіцкую, Рымска-Каталіцкую, Праваслаўную і пратэстанцкія Цэрквы з розных краінаў Еўропы. Сярод дакладчыкаў былі такія выдатныя тэолагі, як дасьледчык духоўнасьці Ўсходніх Цэркваў кардынал Тамаш Шпідлік, праваслаўны мітрапаліт Таліна Стэфанас (Хараламбідас), а таксама багасловы Украінскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату з Кіева. Сярод высокіх гасьцей быў прадстаўнік Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў манс. Мілан Жуст з Ватыкану.

У сваёй заключнай Дэкларацыі X Юбілейны Веляградзкі кангрэс выказаў хрысьціянам Беларусі асаблівую "экуменічную салідарнасьць і духовую падтрымку на шляху іх сумеснага сьведчаньня Евангельля".

*Прэс-служба Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі*



• *Удзельнікі X Юбілейнага тэалагічнага кангрэсу ў Веляградзе (Чэхія).*

# 100-гадовы юбілей скаўтынгу

**Сёлета 1 жніўня споўнілася сто гадоў з таго дня, як лорд Бадэн Паўэл наладзіў першы летнік скаўтаў на высьпе Броўнсі ў Англіі. З гэтай падзеі пачалася гісторыя руху, які мае на мэце выхаваньне адважных, адказных і спраўных маладых людзей.**



• На адкрыцьці міжнароднай сустрэчы еўрапейскіх скаўтаў у Татрах EUROMOOT-2007.

Афіцэр Брытанскага каралеўскага войска распрацаваў педагогіку, якая выхоўвае дзяцей да жыцьця ў міры й любові з іншымі, да шанаваньня прыроды, да веры ў Бога, да асабістае і грамадзянскае адказнасьці ды шмат якіх іншых важных каштоўнасьцяў. Пачаўшыся з аднаго летніка для некалькіх дзясяткаў хлопчыкаў, сёньня скаўцкі рух налічвае агулам мільёны сябраў – хлопцаў і дзяўчын, а таксама дарослых шэфаў. І гэта сьведчыць пра тое, што важнасьць гэтых каштоўнасьцяў сапраўды не прамінае, а скаўцкі метад па-ранейшаму дае плён.

З нагоды 100-гадовага юбілею 1 жніўня 2007 году а 8-й гадзіне раніцы па ўсім сьвеце скаўты аднаўлялі скаўцкае прырачэньне. Таксама ў гэты дзень Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI сустрэўся з прадстаўнікамі Міжнароднага зьвязу гайдаў і скаўтаў Еўропы (FSE), які налічвае каля 60 тысячаў сябраў у 19 краінах Еўропы і Канадзе. «Гэта нагода, каб выразіць нашую блізкасьць і сяброўства»,– так падсумаваў значэньне гэтай сустрэчы Разарыё Баронэ, Генеральны камісар італійскае арганізацыі – адной з сябраў Зьвязу.

А неўзабаве, 4-11 жніўня, праз славацкія ды польскія Татры прайшла міжнародная скаўцкая вандроўка EUROMOOT 2007. Больш за тры тысячы маладых людзей – сябраў Міжнароднага зьвязу гайдаў і скаўтаў Еўропы, у тым ліку хлопцы й дзяўчыны з Беларусі, узялі ў ёй удзел.

Вандроўка пачалася 4 жніўня Боскай Літургіяй ва ўсходнім абрадзе ў грэка-каталіцкім санктуарыюме Багародзіцы ў мястэчку Левоча, што ў Славакіі, і скончылася 11 жніўня начным пераходам-пілігрымкай ды сьвятой Імшой у заходнім абрадзе на Яснай Гары ў польскай Чэнстахове, ля цудатворнай іконы Маці Божай. Такім чынам, вандроўка сымбалічна аб'яднала двое лёгкіх Еўропы – усходнюю і заходнюю хрысьціянскія традыцыі, пра што часта казаў і да чаго ўвесь час заахвочваў папа Ян Павел II.

Удзельнікі Еўрамуту-2007 прадстаўлялі 15 краінаў Еўропы. Самаму старэйшаму з іх было 74 гады. За пяць дзён вандроўкі кожны ўдзельнік прайшоў з поўным рыштункам 70-100 кіламетраў. Падрыхтоўка да мерапрыемства цягнулася каля двух гадоў.



• 4.08.2007, м. Левоча (Славакія). Боскую Літургію для еўрапейскіх скаўтаў узначальвае Ўладыка Ян Бабяк, біскуп Прэшаўскі.

Падчас усяго падарожжа і вандроўкі ў Татрах душпастырскую апеку над беларускімі скаўтамі меў грэка-каталіцкі сьвятар з Горадні а. Алесь Шаўцоў.

Будзем спадзявацца, што сьвяткаваньне 100-ых угодкаў скаўцкага руху надасьць новы магутны імпульс для разьвіцьця хрысьціянскага скаўтынгу на Еўрапейскім кантыненце, у тым ліку і ў роднай Беларусі.

Фотаздымкі з EUROMOOT-2007 можна паглядзець у Інтэрнэце: *www.euromoot.pl*

**Васіль САНКОВІЧ**, *г.Менск*



• Беларускія скаўты з а. Алесем Шаўцовым на EUROMOOT-2007.

# Хрысьціянскі форум моладзі ў Кіеве

**19 жніўня 2007 году ў Кіеве, у дзень сьвята Перамяненьня Гасподняга паводле старога стылю, шматлюднай архірэйскай Боскай Літургіяй завершыў сваю працу Хрысьціянскі форум і IV сесія Патрыяршага сабору УГКЦ на тэму: "Моладзь у Царкве трэцяга тысячагоддзя".**

10 тысячаў маладых людзей – удзельнікаў форуму – распачалі дзень з сьвяточнай Ютрані, да якіх на Боскай Літургіі далучылася яшчэ некалькі тысячаў вернікаў УГКЦ з парафіяў Кіева і вобласьці. Урачыстую Літургію ўзначальваў Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір Гузар, з якім саслужылі адзінаццаць біскупаў і каля сотні сьвятароў.

У сваім казаньні Ўладыка Гузар заахвочваў моладзь тварыць добрыя справы, бо, паводле словаў украінскага першаярарха, яны ёсьць тым крытэрам, паводле якога Госпад будзе ацэньваць нашае жыцьцё. "Важнае ня тое, кім мы ёсьць – біскупамі, сьвятарамі, манахамі ці сьвецкімі, а тое, колькі дабра мы зрабілі для нашых бліжніх",– падкрэсьліў Зьверхнік УГКЦ. Яго Блаславенства кардынал Гузар шчыра падзякаваў украінскай моладзі, што сабралася на хрысьціянскі форум на берагах Дняпра, за іх актыўнасьць і клопат пра будучыню Царквы.

Хрысьціянскі форум у Кіеве стаў сьвятам веры, падзеяй, якая прадэманстравала, што малады чалавек, які верыць у Бога, сапраўды зьяўляецца зарукаю лепшае будучыні Царквы і дзяржавы.

Форум меў экуменічны характар, у ім бралі ўдзел таксама і групы праваслаўнай моладзі, аднак афіцыйнай групы УПЦ Маскоўскага Патрыярхату не было.

# Царква і палітыка

***"Царква не павінна непасрэдна займацца палітыкай",– адзначыў у нядзелю 16 верасьня 2007 году Дзяржаўны сакратар Ватыкану кардынал Тарчызіо Бэртонэ падчас прэс-канферэнцыі ў Ліхені (Польшча), якая адбылася з нагоды беатыфікацыі кс. Станіслава Папчынскага.***

"Задачу пабудовы справядлівага грамадзтва павінны найперш вырашаць самі палітыкі і дзяржавы",– падкрэсьліў кардынал Бэртоне, адказваючы на пытаньне пра ўдзел Каталіцкай Царквы ў палітычным жыцьці. Бліжэйшы супрацоўнік Папы адначасова зазначыў, што Царква павінна быць "рэцэнзентам палітычнага жыцьця". "Каталіцкая Царква не займае непасрэдна пэўнай палітычнай пазіцыі, але пакідае за сабой права ацэньваць дзейнасьць палітыкаў і вызначаць этычныя правілы грамадзкага жыцьця, каб, абапіраючыся на евангельскія каштоўнасьці, будаваць справядлівае грамадзтва",– дадаў кардынал Бэртоне.

"Еўропа зьмяняецца, бо ў яе прыходзяць новыя людзі, і праз гэта яна губляе сваю тоеснасьць. Калі мы здолеем абараніць уласныя рэлігійныя каштоўнасьці, абаронім хрысьціянскія карані Еўропы. Важным, аднак, зьяўляецца тое, што ня трэба навязваць рэлігійныя каштоўнасьці, але прапаноўваць іх іншым краінам",– сказаў Дзяржаўны сакратар.

*Паводле Catholic.by*

# Слова Апостальскага Візітатара БГКЦ

## НА ЗАВЯРШЭНЬНЕ XIII ШТОГАДОВАЙ ПІЛІГРЫМКІ БЕЛАРУСКІХ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ

***Полацак, 15 ліпеня 2007 г.***

Дарагія браты і сёстры!

1 Вялікі дзякуй кожнаму з вас, хто сёньня прыйшоў сюды *"разам праслаўляць Госпада"*. Дзякуй тым з вас, хто ў мінулыя дні ахвярна прайшоў шлях XIII Пілігрымкі беларускіх грэка-католікаў. Дзякуй пілігрымам з усіх парафіяў і супольнасьцяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Шчыра дзякуем нашым братам рыма-католікам за іх удзел і за падтрымку гэтае Пілігрымкі. Асаблівы дзякуй пілігрымам з замежжа: з Украіны, Расеі, Польшчы, Латвіі. Дзякуй усім, хто далучыўся да нашага сьвяткаваньня толькі ўчора і сёньня.

Асабліва дзякуем нашым братам праваслаўным і пратэстантам за іх малітоўную салідарнасьць з намі.

Словы пашаны і шчырыя прывітаньні накіроўваем да высокіх прадстаўнікоў дзяржаўных, абласных і гарадзкіх уладаў.

Але перш за ўсё падзякуем Госпаду, што мы можам сёньня быць разам, *"разам на шляху веры ў сьвятле Евангельля"*.

У нашай сумеснай малітве ўзгадваем мучаніцкі подзьвіг Полацкіх Пакутнікаў 1705 г., разам з подзьвігам шматлікіх хрысьціянаў, што на працягу стагоддзяў аддалі жыцьцё на Беларускай Зямлі за Хрыста і Ягонае Евангельле і так засьведчылі моц сваёй веры.

У гэтым годзе ў асаблівы спосаб у нашай малітве прысутнічаюць сьвятыя Патроны Эўропы – Кірыла і Мятод. Спаўняецца 100 гадоў ад І-га Велярградзкага ўнійнага кангрэсу, які меў месца ў 1907 годзе ў Велярградзе на Маравах па ініцыятыве мітрапаліта Львоўскага Андрэя Шаптыцкага і архібіскупа Аламоўцкага Антаніна Кірылы Стояна, на фоне адраджэньня традыцыі сьвятых Кірылы і Мятода. На пачатку XX стагоддзя, у кантэксьце Велярградзкіх кангрэсаў, кірыла-мятодаўская спадчына стала для многіх тэолагаў, каталіцкіх і праваслаўных, натхненьнем да пошуку шляхоў прымірэньня паміж Цэрквамі, асабліва славянскімі. Велярградзкімі кангрэсамі амаль ад самага пачатку цікавіліся беларускія тэолагі (сярод іх Фабіян Абрантовіч, Зыгмунт Лазінскі, Казімір Кулак, Антон Неманцэвіч, Андрэй Цікота). 80 гадоў таму (у 1927 г.) у V Велярградзкім кангрэсе актыўна ўдзельнічаў а. Андрэй Цікота з кляштару айцоў-марыянаў у Друі.

Унійныя ідэі Велярградзкіх кангрэсаў знайшлі тэалагічны і душпастырскі водгук у Львове і Пінску. Асаблівым ягоным працягам былі Пінскія ўнійныя канферэнцыі, што праходзілі ў 30-ыя гады мінулага стагоддзя пад патранатам Слугі Божага Біскупа Зыгмунта Лазінскага.

X Юбілейны кангрэс, што праходзіў у Велярградзе 28 чэрвеня – 1 ліпеня гэтага году, выказаў хрысьціянам Беларусі асаблівую *"экуменічную салідарнасьць і духовую падтрымку на шляху іх сумеснага сьведчаньня Евангельля"*.

2 Вера, якая ў Евангельлі Ісуса Хрыста знаходзіць крыніцу сьвятла, заахвочвала вас у мінулыя дні Пілігрымкі памятаць, што мы *"усе пакліканы да сьвятасьці"* і ў перспэктыве гэтага біблійнага пакліканьня заахвочвае маліцца за моладзь Беларусі, за беларускія сем'і, за беларускае грамадзтва. Зразумела, што гэтую сумесную малітву за беларускае грамадзтва хочам працягваць і надалей.

Дазвольце, браты і сёстры, падзяліцца з вамі адной радаснай весткай. У мінулы чацьвер – 12 ліпеня, разам з каталіцкімі біскупамі Беларусі і разам з праваслаўным біскупам Магілёўскім Дастойным Уладыкам Сафроніем, я меў прывілей удзельнічаць у Магілёве ў адкрыцьці Міжнароднага хрысьціянскага фэстывалю "Магутны Божа". У прысутнасьці высокіх прадстаўнікоў дзяржаўнай, абласной і гарадзкой адміністрацыі вялікая зала сьпявала: *"Магутны Божа! Уладар сусьветаў [...], павагу, сілу і веліч веры ў нашу праўду, у прышласьць – дай!"*

Гэта вельмі каштоўны знак, што мы ўсё больш і больш усьведамляем, што павага і духовая сіла народу ёсьць плодам жывой веры.

*"Вера – гэта сапраўды вельмі дарагі талент, вялікі дар Божы. Вера навучае чалавека, навошта ён жыве на сьвеце, паказвае чалавеку дарогу, якая вядзе да Бога, да вечнага шчасьця"*,– пісаў у 1934 г. Экзарх Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Антон Неманцэвіч, які аддаў жыцьцё за веру ў Хрыста і за Царкву ў нацысцкай турме ў Менску, у 1943 г.

Але сапраўдная, дзейсная вера – гэта дар, які Госпад дае тым, хто шчыра каецца ў сваіх грахах. Няма ніякага сумневу, што мы – беларускае грамадзтва – патрабуем пакаяньня, што ў Беларусі маем яшчэ вялікі *"вакуум бязьвер'я"*, маем *"вялікі дэфіцыт маральных і сумленных людзей, якія вераць у Бога"*.

*"Дзе вера – там і моц"*,– навучае нас сьв. Ян Залатавусны. Моцную, квітнеючую Беларусь магчыма пабудаваць толькі на фундаменце веры ў Бога. І гэта заданьне для вернікаў усіх хрысьціянскіх Цэркваў у Беларусі. Трэба толькі, каб мы адважна і мужна ішлі *"разам на шляху веры ў сьвятле Евангельля"*. Хай Госпад блаславіць усе нашыя сумесныя ініцыятывы.

> *"Моцную, квітнеючую Беларусь магчыма пабудаваць толькі на фундаменце веры ў Бога. І гэта заданьне для вернікаў усіх хрысьціянскіх Цэркваў у Беларусі. Трэба толькі, каб мы адважна і мужна ішлі "разам на шляху веры ў сьвятле Евангельля"."*
>
> *Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архім. Сяргей (Гаек)*

3 Дарагія браты і сёстры!

Сёньня Госпад зьбірае нас разам у старажытным беларускім горадзе Полацку. Так шчасьліва атрымліваецца, што ў гэтыя дні спаўняецца 490 гадоў ад моманту, калі вялікі беларускі першадрукар Францішак Скарына, родам з Полацку, пачаў выдаваць у Празе Біблію ў старабеларускім перакладзе. Гэтыя ўгодкі – вельмі добрая нагода паглыбіць у сэрцах усіх нас любоў да Слова Божага.

У гэтай сьвяточнай грамадзе тут, у Полацку, хочам сёньня ўзгадаць і зьвярнуць асаблівую ўвагу на словы Францішка Скарыны, якія ён зьмясьціў у Прадмове да свайго выданьня Бібліі:

*"Шануйма ж як належыць сьвятое Евангельле, а шануючы – насьледуйма справы нашага Збаўцы Ісуса Хрыста! І гэтак з дапамогаю Яго ўвойдзем у жыцьцё вечнае"*.

(Ф.Скарына, Прадмова да Бібліі).

490 гадоў таму Госпад-Чалавекалюбец даў нам Біблію ў перакладзе на нашую родную мову. Ужо, сапраўды, пара, каб мы самі, нашыя блізкія і сябры, хацелі чытаць Слова Божае на нашай роднай беларускай мове. Гэта таксама шырокае поле да сумеснага дзеяньня ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў у Беларусі. Молімся шчыра, каб Бог, які ёсьць любоў, уліў у нашыя сэрцы і ў сэрцы нашых суайчыньнікаў любоў да роднай беларускай мовы і роднай духоўнай культуры. Штодзённае чытаньне Слова Божага на роднай мове няхай будзе першым крокам на шляху нашага хрысьціянскага сьведчаньня.

4 Дарагія браты і сёстры! Паважаныя сябры!

Некалькі дзён таму – 7 ліпеня – мінула 125 гадоў ад нараджэньня вялікага беларускага хрысьціянскага паэта, вешчуна духовага адраджэньня беларускага народу – Янкі Купалы. У рамках нашага сёньняшняга сьвята, падчас Боскай Еўхарыстычнай Літургіі, у якой праслаўляем Перамогу Ўваскрослага Хрыста, дазвольце працытаваць некалькі сказаў з унікальнага ў сусьветнай літаратуры твору, прарочага верша-малітвы Янкі Купалы "Хрыстос васкрос" (з 1911 г.):

*Хрыстос васкрос! Усюды радасьць,*
*Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей:*
*Вялікі Мучальнік, здаецца,*
*Абняў усіх ласкаю сваей.*

Сапраўды, Уваскрослы Хрыстос абдымае ўсіх нас, нашую Бацькаўшчыну, *"ласкаю сваёй"*. Дачытайце, калі ласка, дарагія браты і сёстры, увесь гэты духовы верш да канца і будзьце мужнымі сьведкамі Перамогі Ўваскрослага Хрыста. ⇨

# Памятныя крыжы

## на месцы бальшавіцкіх расстрэлаў

***Грэка-каталіцкі сьвятар з Віцебску айцец Зьміцер Грышан 29 ліпеня 2007 году асьвяціў крыж ля вёскі Паляі Віцебскага раёну, які ўсталявалі віцебскія актывісты ў памяць пра ахвяры бальшавіцкіх рэпрэсіяў. Падобны памятны крыж пад Ваўкавыскам 14 ліпеня асьвяціў айцец Андрэй Крот з Горадні.***

Крыж памяці ўсіх ахвяраў таталітарных рэжымаў у XX стагоддзі быў усталяваны па ініцыятыве ваўкавыскіх краязнаўцаў (найперш – Віктара Вайтчука) сумесна з грамадзкімі актывістамі ды вернікамі з Горадні, Сьвіслачы і Мастоў ля чыгуначнага пераезду на ўезьдзе ў Ваўкавыск з боку Слоніма, на месцы, дзе некалі стаяла ўніяцкая царква. Побач з гэтым месцам, як сьцьвярджаюць мясцовыя краязнаўцы, адбываліся расстрэлы "ворагаў народу" ў сталінскія часы, але расстрэльвалі тут мірных жыхароў таксама і фашысты.

Мясцовыя краязнаўцы адзначаюць, што, на жаль, пакуль ніхто й нідзе ў Ваўкавыску і ваколіцах не ўшаноўваў памяці паўстанцаў і пацярпелых ад таталітарных рэжымаў, хоць такіх месцаў тут шмат. Напрыклад, у цэнтры гораду, на месцы былога вайсковага гарадка, у часы апошняй вайны спачатку знаходзіўся лагер для савецкіх ваеннапалонных, пазьней – гета, а яшчэ пазьней – лагер для нямецкіх ваеннапалонных і адначасова – лагер сталінскіх ахвяраў.

Памятны крыж на Віцебшчыне непадалёку ад вёскі Паляі паўстаў уласна тут, таму што, паводле сьведчаньняў мясцовых жыхароў, у 30-40-ыя гады мінулага стагоддзя НКВД у гэтых мясьцінах праводзіў масавыя расстрэлы людзей.

Драўляны крыж вышынёй каля двух метраў устаноўлены на ўскрайку лесу каля вёскі, узбоч аўтамабільнай дарогі Віцебск – Лёзна. Да памятнага крыжа прымацавана шыльдачка з пазнакай «Ахвярам сталінскіх рэпрэсій», на якой зьмешчаны таксама словы з Евангельля: «Дабрашчасныя гнаныя за праўду, бо іх ёсьць царства нябеснае».

У памяць па бязьвінна загінулых грэка-каталіцкі сьвятар з Віцебску айцец Зьміцер Грышан адслужыў паніхіду, а ўдзельнікі жалобнай урачыстасьці ўсклалі да крыжа кветкі і запалілі сьвечкі.

Тымчасам, сёлета, калі наша грамадзтва ўзгадвае трагічныя падзеі страшнага 1937 году, чарговы раз учынена бясчынства ў Курапатах, дзе пахаваны дзясяткі тысячаў ахвяраў бальшавіцкага тэрору. Гэтым разам злачынцы ня толькі пашкодзілі мемарыяльныя шыльды, але і зламалі крыж «Пакутнікам Беларусі», усталяваны на Дзяды ў 1989 годзе.



• *Ваўкавыск, 14.07.2007. Асьвячэньне памятнага крыжа ў памяць пра ахвяры таталітарных рэжымаў XX стагоддзя на месцы былой уніяцкай царквы.*

---

Гэты дар мужнасьці і міру, які прыносіць Уваскрослы Хрыстос, асабліва патрэбны ўсім нам у гэты час, калі ўспамінаем 70-ыя ўгодкі жахлівых сталінскіх рэпрэсій, ахвярамі якіх стала больш за 2 мільёны жыхароў Беларусі. Разам з хрысьціянамі іншых канфесій узгадваем гэтыя ахвяры перад Уваскрослым Госпадам і хочам маліцца аб дары вечнага супакою для іх душаў, а для нас усіх – аб ласцы быць мужнымі сьведкамі Ўваскрослага Хрыста ў Беларусі 2007 году. Амін.

*Слава Ісусу Хрысту!*

*Полацак, 15 ліпеня 2007 г.*

+ архім. Сергей Гаек

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек),**
**Апостальскі Візітатар для грэка-каталікоў Беларусі**

---

# Праблемы ўрачэбнай этыкі ў сучасным сьвеце

***По благаславеньні ардынарыя Віцебскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі біскупа Ўладзіслава Бліна 2 чэрвеня 2007 году ў Віцебскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце была арганізавана чарговая (ужо трэцяя) Міжнародная медыцынская канферэнцыя на тэму "Праблемы ўрачэбнай этыкі ў сучасным сьвеце".***

Ініцыятарамі гэтай, як і папярэдніх канферэнцыяў зьяўляюцца: Віцебскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, Віцебская рыма-каталіцкая дыяцэзія ды Аддзел па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў Віцебскага аблвыканкаму.

Гэтая міжнародная сустрэча ізноў сабрала для абмеркаваньня надзённых пытаньняў урачэбнай этыкі ня толькі ўрачоў-хрысьціянаў, але і прадстаўнікоў Царквы, уладаў, дыпламатычнага корпусу, а таксама і ўсіх тых людзей добрай волі, якім неабыякава падобная тэматыка. Праблемы біяэтыкі ў сучаснай медыцыне, алкагалізму, наркаманіі, духоўныя асьпекты барацьбы супраць абортаў і эўтаназіі, дэмаграфічныя праблемы зьяўляюцца актуальнымі ў сучасным сьвеце ва ўсіх краінах незалежна ад узроўню духоўнага развіцьця, канфесійнай прыналежнасьці насельніцтва, палітычных або эканамічных умоваў.

Адметнасьцю сёлетняй канферэнцыі стаў філасофска-тэалагічны даклад "Фундаметальныя асновы этыкі біялагічных дасьледаваньняў – мета-біяэтыкі" Яго Эмінэнцыі кардынала Хаўера Лазана Баррагана з Ватыкану, які зьяўляецца Старшынёй Папскай Рады па справах медыцынскіх працаўнікоў (па душпастырстве ў сфэры аховы здароўя). Кардынал Баррагана ў сваім дакладзе паказаў гісторыю разьвіцьця і сучасныя філасофска-этычныя кірункі біяэтыкі, а таксама прынцыпы каталіцкай этыкі біялагічных дасьледаваньняў. Вельмі актуальным быў даклад прафесара Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэту сп. В.Глушанко пра дэмаграфічную сітуацыю і прычыны сьмяротнасьці насельніцтва ў Беларусі. Пададзеная ім інфармацыя выклікае непакой.

У сёлетняй канферэнцыі прымалі ўдзел таксама і прадстаўнікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы на чале з Апостальскім Візітатарам для грэка-католікаў Беларусі архімандрытам Сяргеем (Гаекам): парах віцебскай парафіі а. Зьміцер Грышан, а. Аляксандр Шаўцоў з Горадні і Яўген Андросік з Менску.

**а. Аляксандр ШАЎЦОЎ**
*г.Горадня*

# Сібіу: некалькі акцэнтаў III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі

***З 4 па 9 верасьня 2007 году ў горадзе Сібіу (Германштадт) ў Румыніі адбылася III Еўрапейская Экуменічная Асамблея (ЕЭА). Яе дэвізам сталі словы: "Сьятло Хрыста прасьвятляе ўсіх – надзея на абнаўленьне і еднасьць у Еўропе". СМІ ўжо пасьпелі назваць гэтую сустрэчу "самай вялікай падзеяй у жыцьці Царквы 2007 году на нашым кантыненце". Каля 2500 дэлегатаў з розных краінаў і канфесіяў прынялі ўдзел у гэтым хрысьціянскім форуме, сярод іх таксама прадстаўнікі Беларусі ды БГКЦ.***

## ЕЎРАПЕЙСКАЯ СТАЛІЦА КУЛЬТУРЫ 2007

Цяжка ўявіць сабе лепшае месца для сустрэчы каталікоў двух абрадаў, праваслаўных ды пратэстантаў: румынскі горад Сібіу, што ў Трансільваніі, у гэтым годзе быў абвешчаны ЮНЭСКО культурнай сталіцай Еўропы. Некалькі месяцаў таму Румынія стала новым сябрам у Еўрапейскім Зьвязе. Да таго ж маляўнічая Трансільванія (Сяміграддзе) – гэта край, дзе сустракаюцца румынская, нямецкая і мадзярская культуры.

Пасьля сустрэчаў у пратэстанцкай Базылеі (Швайцарыя) у 1989 годзе і ў каталіцкім Грацы (Аўстрыя) у 1997-ым, для чарговай экуменічнай асамблеі быў абраны горад у краіне, дзе колькасна пераважаюць праваслаўныя. У самім Сібіу, што налічвае каля 170 тысячаў жыхароў, 92% жыхароў зьяўляюцца вызнаўцамі праваслаўя, вернікі супольнасьцяў католікаў лацінскага і візантыйскага абрадаў ды пратэстантаў складаюць каля 2 %.

## ЭКУМЕНІЧНЫЯ АСАМБЛЕІ: БАЗЫЛЕЯ – ГРАЦ – СІБІУ

Сустрэча ў Сібіу стала ўжо трэцяй Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеяй. Тэма і асноўныя аспекты экуменічнай асамблеі ў Сібіу сканцэнтраваны ў сёлетнім дэвізе: "Сьвятло Хрыста прасьвятляе ўсіх – надзея на абнаўленьне і еднасьць у Еўропе". Нагадаем, тэмай першага падобнага экуменічнага форуму ў Базылеі (1989) была: "Мір, справядлівасьць і абарона стварэньня". Дыскусіі, разважаньні і малітва II Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі, што праходзіла ў Грацы (1997), вынікалі з наступнай тэмы: "Паяднаньне – дар Бога і крыніца новага жыцьця". Чакалася, што на гэтай Асамблеі ў Грацы сустрэнуцца Папа Ян Павел II і Патрыярх Маскоўскі Аляксей II. Аднак гэтая гістарычная сустрэча так і не адбылася – у апошні момант праваслаўны бок вырашыў адмовіцца ад магчымасьці такога дыялогу першаярархаў.

III Еўрапейская Экуменічная Асамблея адрозьніваецца ад папярэдніх тым, што яна была запланавана як духоўная пілігрымка і складалася з чатырох этапаў, тры з іх былі падрыхтоўчыя. Першы этап падрыхтоўкі да Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі ў Сібіу распачаўся сустрэчай дэлегатаў у Рыме, 24-27 студзеня 2006 году. Затым, на другім этапе, пачынаючы ад другога паўгоддзя 2006 году да першага паўгоддзя 2007-га, мелі месца экуменічныя спатканьні і канферэнцыі на ўзроўні паасобных краінаў і рэгіёнаў. Адна з такіх экуменічных канферэнцыяў прайшла 20 студзеня 2007 году ў Чырвоным касьцёле ў Менску. Беларускія грэка-католікі ўзялі чынны ўдзел у яе падрыхтоўцы і правядзеньні. Трэцім этапам падрыхтоўкі стала сустрэча 15-18 лютага 2007 году ў горадзе Вітэнберг-Лютэрштадт. Завяршылася гэтая духоўная пілігрымка прадстаўнічым форумам еўрапейскіх хрысьціянаў у Сібіу.

## АКЦЭНТЫ АСАМБЛЕІ Ў СІБІУ

Асамблея ў Сібіу мела свае адметныя акцэнты. Адным з іх, безумоўна, стала сустрэча і больш блізкае знаёмства з праваслаўем, якое дамінуе ў Румыніі. Другі, ня менш важны акцэнт – гэта разважаньні і дыскусіі над рэалізацыяй Еўрапейскай Экуменічнай Хартыі. Яна ўяўляе сабой дакумент, у якім сфамуляваны супольныя для ўсіх хрысьціянаў пункты, што датычаць веравучэньня. Хартыя павінна дапамагчы больш плённаму супрацоўніцтву Цэркваў. Падпісана яна ў 2001 годзе Канферэнцыяй Еўрапейскіх Цэркваў (CEC), у якую ўваходзіць 125 праваслаўных, пратэстанцкіх, англіканскіх і старакаталіцкіх Цэркваў, і Рада Біскупскіх Канферэнцыяў Еўропы (CCEE). Уласна гэтыя дзьве інстытуцыі былі арганізатарамі III ЕЭА ў Сібіу.

Вышэй узгаданыя акцэнты мелі месца ў кантэксьце новага дакументу Кангрэгацыі навукі веры "Адказы на пытаньні, што датычаць некаторых асьпектаў навукі пра Царкву". Гэты дакумент ня выклікаў энтузіязму ў хрысьціянаў-некатолікаў. Кардынал Вальтар Каспэр быў з імі салідарны: "Тое, што параніла вас, параніла і мяне",– заявіў ён. Адначасова кардынал выказаў перакананьне, што дакумент ня меў намеру прычыніць боль ці каго-небудзь прынізіць.

## БЕЛАРУСЬ У ЕЎРОПЕ

Для паездкі ў румынскі Сібіу, які належыць цяпер да аб'яднанай Еўропы, і ўдзелу ў III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі ў Беларусі першапачаткова была сфармавана міжканфесійная група з 7 асобаў. На жаль, у апошні момант ад паездкі адмовіліся праваслаўныя браты, яшчэ адзін прадстаўнік захварэў і ў выніку беларуская дэлегацыя зьменшылася да чатырох асобаў: два грэка-католікі (парах з Берасьця а. Ігар Кандрацьеў і а. Андрэй Буйніч з Менску) і два рыма-католікі (канцлер Віцебскай курыі кс. Кшыштаф Вітвіцкі і а. Ян Глінка з Дому манахаў-вэрбістаў у Баранавічах).

Аднак, як выявілася ўжо ў Сібіу, на Асамблею прыехала яшчэ і група праваслаўных беларусаў. Сярод гэтай групы была спн. Кацярына Пастухова, якая выступіла перад удзельнікамі з асабістым сьведчаньнем-разважаньнем на ўрывак з Евангельля ад сьвятога Лукі, што распавядае пра Перамяненьне Госпада нашага Ісуса Хрыста. "Перамяненьне не зьяўляецца індывідуальным актам. Хрыстос падымаецца на гару не адзін, але з вучнямі,– дзялілася сваімі разважаньнямі спн. Кацярына.– Перамяненьне адбываецца толькі тады, калі кожны з нас усьведамляе, што ён/яна – частка чагосьці большага... Перамяненьне – гэта вечная Еўхарыстыя, магчыма яна толькі тады, калі мы ёсьць разам".

Ня могуць ня радаваць нас, беларусаў, словы зямлячкі, выказаныя на гэтым прадстаўнічым еўрапейскім экуменічным форуме. І хоць зерне было пасеяна на чужой румынскай глебе, хай блаславіць нас Госпад і дасьць у дар нам плён навяртаньня ды еднасьці на нашай роднай беларускай зямлі.

**а. Андрэй БУЙНІЧ**, *г.Менск*

# Душпастыры Гарадні павіншавалі настаўнікаў

***Сумеснае віншаваньне гарадзенскім настаўнікам з іх прафесійным сьвятам склалі хрысьціяне розных канфесіяў гораду.***

У Дзень настаўніка група сьвятароў Рыма-Каталіцкай і Грэка-Каталіцкай Цэркваў, пастараў Аб'яднанай Царквы хрысьціянаў веры евангельскай і Абшчынаў хрысьціянаў поўнага Евангельля павіншавала прадстаўнікоў працоўных калектываў больш за трыццаці школаў Гарадні, а таксама некалькіх сьпецыялізаваных навучальных установаў. Зважаючы на вялікую ролю настаўніка ў выхаваньні маладога пакаленьня беларусаў, кожная школа атрымала ў падарунак Біблію ды адмыслова падрыхтаваную паштоўку-віншаваньне для настаўніцкага калектыву з словамі з Кнігі Прыпавесьцяў: "Настаў юнака на пачатку шляху яго: ён ня збочыць з яго, калі і састарыцца" *(Прып 22, 6)*. У большасьці школаў са зьдзіўленьнем, але адначасова й радасьцю прымалі такое экуменічнае хрысьціянскае віншаваньне.

Ідэя гэтай сумеснай хрысьціянскай акцыі нарадзілася падчас міжканфесійных малітоўных сустрэчаў, якія адбываюцца ў Горадні ўжо напрацягу амаль году.

## УДАКЛАДНЕНЬНЕ

У мінулым нумары нашай газеты ў артыкуле пра навуковую канферэнцыю ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы "Хрысьціянства ў гістарычным лёсе беларускага народу" ("Царква", № 2 (53), 2007, с. 3) была дапушчана прыкрая недакладнасьць, якую сьпяшаемся выправіць: насамрэч з цікавым і грунтоўным паведамленьнем на тэму "Праца з моладдзю ў сучаснай Грэка-Каталіцкай Царкве на прыкладзе парафіяў Берасьцейскай вобласьці" выступіла студэнтка Берасьцейскага дзяржуніверсітэту спн. Любоў Лукашэвіч. Шчыра перапрашаем і зычым посьпеху ў навуковай працы!

# РАЗАМ

**СТАРОНКІ ГРЭКА-КАТАЛІЦКІХ СЕМІНАРЫСТАЎ, выпуск № 3 (27)-2007**




# *Біблія ў жыцьці семінарыста*

***Біблія – кніга, якая апісвае гісторыю збаўленьня чалавека, пачынаючы са страты раю першымі людзьмі да моманту эсхаталагічнага выкананьня Божага плану ў Новым Ерусаліме. Гэта і нарматыўны дакумент, у якім апісваюцца правілы, жыцьцё паводле якіх прыбліжае да Бога. На Бібліі, якая да канца сьвету ня зьменіцца ні на ёту, будуецца ўся хрысьціянская навука, якая захоўваецца і перадаецца Царквой Хрыстовай. Біблія для кожнага верніка зьяўляецца Словам Бога жывога, які зьвяртаецца да сэрца і розуму кожнага чытача. Біблія для семінарыста – гэта першааснова, фундамент усяго яго жыцьця.***

На семінарысьце, калі ён чытае Біблію, ляжыць падвойная адказнасьць. Найперш ён мусіць знайсьці шлях свайго збаўленьня, уласны шлях да Бога. Пазьней ён стане пераказваць Слова Божае і мусіць быць згодна з Евангельлем прыкладам жыцьця для іншых людзей. Таму ў семінарыі для Бібліі адведзена важнае месца. Біблія вывучаецца на лекцыях, на якіх разглядаюцца як гісторыя самога біблійнага канону, так і гістарычныя абставіны, у якіх адбываюцца біблейскія падзеі. Тлумачэньне Бібліі семінарысты вывучаюць на лекцыях па экзэгетыцы. Біблійнае адкрыцьцё зьяўляецца падставай тэалагічнай думкі.

Найбольш часу семінарыст праводзіць з Бібліяй на ранішніх разважаньнях. Звычайна чытаецца ўрывак Евангельля дня ў адмысловы спосаб, здаўна вядомы як *lectio divina*, Божае чытаньне. Раньняя Царква верыла і на вопыце ведала, што, чытаючы ў малітоўным духу Сьвятое Пісаньне, яна ўступае ў зносіны з Самім Сынам Божым, атрымліваючы Яго навуку і Яго нябачную, але рэальную прысутнасьць у Супольнасьці. Фармальна *lectio divina* падзелена на чатыры этапы. Ад *lectio*, якое заключаецца ў чытаньні і перачытваньні якога-небудзь урыўка з Сьвятога Пісаньня, спасьцігаючы галоўныя яго элементы, пераходзяць да *meditatio*, якое ўяўляе сабой нібыта ўнутраны прыпынак, падчас якога душа зьвяртаецца да Бога, намагаючыся зразумець тое, што сёньня кажа Яго слова стасоўна да канкрэтнай жыцьцёвай сітуацыі. Пасьля наступае *oratio*, малітва, якая разумее скруху сэрца, падзяку, хвалу, заклік, малітва, якая падтрымлівае нас у непасрэднай размове з Богам. Калі малітва сапраўдная, яна перарастае ў жыцьцё, усяляе ў душу жаданьне адгукнуцца на Божы заклік, каб адказаць ня словам ці імпэтам пачуцьцяў, але справай усяго жыцьця. Апошні этап – *contemplatio*, сузіраньне – робіць нашае сэрца ўважлівым да прысутнасьці Хрыста. Вернік, які дасягнуў гэтага этапу, усьведамляе, што адзін і той жа Дух дабравесьціць у тэксьце, у чытальніку гэтага тэксту і ў "знаках часу".





• Старонка з першай беларускай друкаванай кнігі – Псалтыра, выдадзенага Францішкам Скарынам у 1517 г. у Празе.

Для семінарыста яшчэ адным важным момантам у Новым Запавеце зьяўляецца жыцьцё першай Царквы, яе разьвіцьцё і праблемы. Сёньня ў нашай краіне, якая прайшла праз дзесяцігоддзі дзяржаўнага атэізму і вайны з рэлігіяй, няпроста знайсьці чалавека, які б паходзіў з сям'і з глыбокімі хрысьціянскімі царкоўнымі традыцыямі. Часьцей вобраз Бога складаецца з кавалкаў разнастайных рэлігійных вучэньняў, веды пра Бога чэрпаюцца з самых розных крыніцаў. Такое пазацаркоўнае ўяўленьне пра Бога можа аказацца вельмі далёкім ад таго, якім аб'явіў Сябе Госпад у Бібліі. Каб лягчэй знайсьці ў гэтым сьвеце шлях да збаўленьня, каб захаваць у поўні сваю навуку, Ісус Хрыстос стварыў Царкву. Для гэтага Госпад выбраў апосталаў, а ў дзень Пяцідзясятніцы спаслаў на іх Сьвятога Духа. Біскупы і сьвятары, як спадкаемцы апосталаў, арганізуюць духоўнае жыцьцё хрысьціянскай суполкі, забясьпечваюць і ствараюць умовы для духоўнага разьвіцьця. Кніга "Апостал", што ўтрымлівае пасланьні і Дзеі апосталаў, дапамагае сьвятарам і семінарыстам будаваць парафіяльную супольнасьць, Царкву.

У жыцьці семінарыста і кожнага хрысьціяніна Сьвятое Пісаньне становіцца альфай і амегай яго жыцьця. Нельга любіць Бога, ня ведаючы Яго запаветаў. А самае галоўнае – нельга любіць Госпада, не выконваючы Яго запаветаў. "Хто мае прыказаньні Мае і захоўвае іх, той любіць Мяне; а хто любіць Мяне, таго палюбіць Айцец Мой; і Я палюблю яго і зьяўлюся яму Сам" *(Ян 14, 21)*.

**семінарыст Аляксей ФІЛІПЕНКА**

# Віцебск - Ерусалім

*"З княскага роду ты, слаўная Еўфрасіньня, явілася князёўнай духа і напоўніла водарам дабрадзейнасьцяў родны Полацак і ўсю Беларусь. Дзеля гэтага дараваў табе нябесную радасьць Ісус Чалавекалюбец, Спас душаў нашых".*
*(З Вячэрні ў дзень успаміну сьв. Еўфрасіньні Полацкай)*



Сёлета ў чарговы раз слаўны сваёй духоўнай і гістарычнай спадчынай горад Полацак вітаў удзельнікаў XIII пілігрымкі, якую ладзіць Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква штогод у гонар Полацкіх мучанікаў айцоў базыльянаў. Акрамя беларусаў, у ёй удзельнічалі госьці з Украіны і Латвіі, былі таксама католікі лацінскага абраду і праваслаўныя. Менавіта таму гэтую пілігрымку можна назваць міжнароднай і міжканфесійнай. Пілігрымка мае пакутніцкі характар. Яна пачынаецца з Віцебску – месца, дзе прыняў мучаніцкую сьмерць за Зьяднаную Царкву сьвятамучанік Язафат, архібіскуп Полацкі, і ідзе да Полацку – месца забойства 5 манахаў, закатаваных у храме сьв. Сафіі царом Пятром І. Адлегласьць – прыкладна 110 кіламетраў – пераадольваецца пілігрымамі за 4 дні.

Вось так кораценька пра пілігрымку. Але што ж хаваецца за гэтай "сухой" інфармацыяй? Аўтар гэтага артыкулу хоча падзяліцца з чытачом сваімі ўражаньнямі ад пройдзенай пілігрымкі ў годзе Божым 2007.

Увечары перад пачаткам пілігрымкі – малітва на Ўсьпенскай горцы ў Віцебску – месцы забойства Язафата Кунцэвіча, сон на падлозе ў школе, пасьля – Літургія ў касьцёле сьв. Барбары, сьняданак і – пачалася дарога. Першы дзень пілігрымкі – дзень спатканьняў са старымі сябрамі, а нават такімі, каго можаш пабачыць толькі на пілігрымцы. Сілы яшчэ сьвежыя, і дзень праходзіць даволі весела і хутка. Пасьля – начоўка ў намётах на футбольным полі ў Слабадзе.

Другі дзень дарогі – дождж. Супынак у Шуміліна на сьв. Літургію, ежу. І зноў у дарогу. На табе ўвесь час апрануты дажджавік, кроплі вады манатонна барабаняць па ім. Занікае размова, стома ўжо адчуваецца. Увесь час перад табой толькі дарога і дождж. У нейкі момант ты ўжо ня ідзеш разам з усімі, але сам-насам з сваімі думкамі, учынкамі, успамінамі. Настае адпаведны момант – і гэтая дарога становіцца шанцам нанова ацаніць твае мэты, вартасьці і каштоўнасьці. Вырваныя з хуткага тэмпу жыцьця, мы трапляем у іншы сьвет Божай блізкасьці, дзе атрымоўваем вялікую порцыю Ягонай ласкі – у любы час можна падыйсьці да сьвятара.

Некалькі гадзінаў хады пад дажджом прыводзяць нас на маленькую чыгуначную станцыю Лоўша. Маем абед і сухое месца для адпачынку – так проста і так сьвяточна! Глядзіш на твары – на іх усьмешкі, на тваім таксама. Шчырая ўсьмешка адкрывае нам нешта са стану першароднага шчасьця. Наша дарога – як дарога з Назарэту да Ерусаліму, таксама прыблізна 110 кіламетраў уздоўж Ярдану толькі пад дзённай сьпёкай, якая ўласьціва той мясцовасьці. Урэшце, шлях другога дня пілігрымкі пройдзены. Цяпер – вячэра, апрацоўка мазалёў, малітва падзякі за дзень і сон.

Пачынаецца трэці дзень пілігрымкі – большая палова шляху ўжо па-за плячыма. Боская Літургія, сьняданак, дарога і зноў дождж. Увечары – вельмі вясёлая праграма розных выступленьняў. Аказваецца, стома лёгка праганяецца сьмехам.

Апошні дзень пілігрымкі сонечны. Уваходзім у Полацак. Малітва ў Сафійскім саборы. І вось мы ўжо ля Барыса-Глебава манастыра. На вячэрні я стаяў і адчуваў, як сьпеў парафіяльнага хору нібы салодкі водар духмянага алею, напаўняе маю душу. Сьвятло сьвечак адбіваецца на ліках сьвятых Параскевы і Еўфрасіньні. Каля 1000 гадоў мінула з часу пілігрымаваньня гэтых сьвятых у Ерусалім. "Пажадаўшы ўбачыць сьвяты горад і пакланіцца Магіле Гасподняй, ты Еўфрасіньня, пайшла ў зямны Ерусалім і там радасна пакланілася сьвятым мясьцінам",– сьпяваецца на Ютрані ў дзень успаміну сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Сёньня гэтыя сьвятыя моляцца за нас. Кожнае сэрца, што знайшло Любоў і Праўду ў Госпадзе – гэта плён таксама і іх малітвы. Бо, як сьпяваем на вячэрні ў гонар сьв. Еўфрасіньні: "Яна просіць Хрыста Бога, якога палюбіла больш за ўсё, захаваць свабодным наш народ, умацаваць яго ў праўдзівай веры і згодзе, даць супакой усяму сьвету, і душам нашым – адпушчэньне грахоў і веліч зьмілаваньня".

Нядзеля, сьвяточная Боская Літургія: прыгажосьць сьпеву на роднай мове, поўныя Мудрасьці Божай словы ўсходніх малітваў, бляск залацінак на сьвятарскіх убраньнях і напрыканцы – Гасподняе благаславеньне дажджом. За прыкладам усіх сьвятых Зямлі нашае мы пакліканыя ў любові служыць Госпаду і адно аднаму. "Багародзіца Дзева, надзея ўсіх хрысьціянаў, пакрый нас покрывам сваім, і малітвамі тваімі да Сына Твайго і Бога нашага захавай нас ад усякага гора і суму". Амін.



• Полацак, 14. 07.2007. Малітва ў Сафійскім саборы – катэдры сьв. Язафата і месцы пакутніцкай сьмерці 5 манахаў-базыльянаў.

**семінарыст**
**Сяргей РАЮНЕЦ**



• 14.07.2007. Пілігрымы ў Струньні, каля памятнага крыжа на месцы рэзідэнцыі полацкіх уніяцкіх архібіскупаў.

# Рэзідэнцыя

## полацкіх уладык

***Адным з пунктаў, праз якія заўсёды праходзяць удзельнікі Полацкай пілігрымкі, ёсьць Струньне, рэзідэнцыя полацкіх уніяцкіх архібіскупаў.***

У Струньні знаходзіўся палац полацкіх архібіскупаў з унутранай капліцай (падобна як у Сафійскім базыльянскім манастыры ў Полацку, бо адзін архітэктар і замоўца). Лёс палацу, як і Крыжаўзвышанскай царквы, трагічны. Пад ціскам царскіх уладаў недзе ў 1833 годзе царква была перададзена праваслаўным, а капліца ў палацы засталася за ўніятамі. Справа аб закрыцьці ўніяцкае капліцы (а дакладней спробе закрыцьця) датуецца 14.03.1834. Капліца ў палацы пэўна функцыянавала да Полацкага сабору 1839 году, потым увесь палацавы комплекс забрала дзяржава і тут была ўтвораная Струнская турма.

За савецкім часам у палацы было сховішча боезапасаў. Царква, паводле сьведчаньняў вяскоўцаў, узарвана ў 1936 годзе, частку цэглы разабралі, а рэшткі ляжалі да Дажынак-2002. Палац узарваны чырвонаармейцамі падчас адыходу з Полацку ў ліпені 1941 году. Ля месца існаваньня палацавага комплексу вернікамі полацкай грэка-каталіцкай парафіі 19.09.1997г. усталяваны памятны крыж.

**Міхась БАЎТОВІЧ**
*(Паводле: radzima.org)*

# Пілігрымка семінарыстаў

Сёлета для семінарыстаў БГКЦ пілігрымка Віцебск-Полацак пачалася з падрыхтоўкі да яе. За тыдзень перад выхадам пілігрымаў з Віцебску амаль усе нашыя семінарысты і кандыдаты ў семінарыю сабраліся разам у Полацку. Тут, узначаленыя а. Алесем Шаўцовым, мы жылі пры манастыры студытаў.



Асноўная наша задача была — добраўпарадкаваньне манастырскай тэрыторыі і зборка металёвай канструкцыі капліцы, якая была неабходная для таго, каб пад адкрытым небам адслужыць для шматлікіх пілігрымаў урачыстую Літургію ў нядзелю, па заканчэньні пілігрымкі. Таксама вялікая ўвага была ўдзелена духоўнай падрыхтоўцы семінарыстаў. Кожную раніцу семінарысты і кандыдаты мелі Боскую Літургію, слухалі казаньні. Вечарам усе бралі ўдзел у вячэрні, а пасьля ахвотныя маглі застацца яшчэ й на павячэр'е. Усе багаслужбы ў манастыры праходзілі на царкоўнаславянскай мове.



• На ўзьвядзеньні капліцы.

У аўторак увечары разам з Полацкімі пілігрымамі мы выехалі ў Віцебск. Настрой пасьля служэньня ў Полацку быў бадзёры, натхняў да працы. Я адчуваў адказнасьць за арганізацыйны бок пілігрымкі. Хацелася, каб яе ўдзельнікі думалі пра духоўнае, а не гублялі час на зямныя клопаты, на вырашэньне розных праблемаў, якія маглі паўстаць падчас пілігрымкі.

Здаецца, што найбольшым уражаньнем з усёй пілігрымкі стаў дождж, які пачаўся на другі дзень, перад прыходам у Шуміліна, і скончыўся толькі ў нядзелю, пасьля літургіі. Зразумець Божы сэнс гэтай зьявы я змог, зьвярнуўшыся да Сьвятога Пісаньня. У нагорнай пропаведзі Ісуса дождж — гэта адзін з спосабаў выпрабаваньня на трываласьць збудаванага дому *(пар. Мц 7, 27)*. Таксама апостал Якуб кажа пра доўгацярплівасьць земляроба, які чакае дажджу, каб зямля дала плён *(пар. Як 5, 7)*. У некалькіх месцах Новага Запавету дождж зьяўляецца асноўным варункам, без якога зямля ня дасьць плёну (пар. Як 5, 7; Як 5,18; Дз 14, 17; Габ 6, 7). Сапраўды, для многіх удзельнікаў сёлетняй полацкай пілігрымкі гэты дождж стаў выпрабаваньнем, якое яны перажылі з радасьцю.



• Семінарысты на малітве ў манастыры.



• Боская Літургія пад дажджом.

У Полацку здарыўся выпадак, які я б назваў знакам надзеі. Калі калона пілігрымаў падыходзіла да цэнтру горада, урачыста загучалі званы праваслаўнай царквы Покрыва Найсьвятой Багародзіцы. Збоку гэта выглядала так, нібыта нас урачыста вітаюць. Але, паглядзеўшы на гадзіньнік, стала зразумела, што пачалася вячэрня і што гэта Божы провід "прымусіў" нашых братоў павітаць нас.

Скончылася пілігрымка ўрачыстай сьв. Літургіяй у нядзелю, падчас якой вернікі таксама атрымалі блаславеньне дажджом. Агульны настрой пілігрымаў быў радасны, многія пажадалі прыняць удзел у пілігрымцы ў наступным годзе. А семінарысты засталіся ў Полацку яшчэ на адзін дзень, каб навесьці парадак.

**семінарыст Аляксей ФІЛІПЕНКА**



• Прышэльцы? Не, пілігрымы!

# Развважаньні пра шчасьце

***Апошнія некалькі месяцаў асабліва моцна задумваюся над пытаньнем, што такое шчасьце для мяне, дваццацідвухгадовага хлопца, верніка, хрысьціяніна.***

Спаглядаеш на сваё мінулае, дзе жыцьцё – маятнік падзеньняў і ўзьняцьцяў. А менавіта падзеньняў для ўзьняцьцяў.

У 16 гадоў — першая пілігрымка на сьвята Язафата, размовы пра еднасьць, пачатак веры і даверу. Прыпадзеньне да Крыніцы жыцьця і атрасаньне пылу ад старога. Слуханьне казаньняў і новыя сябры... Госпад даў мне захапіцца Ім і паклікаў да служэньня іншым. Разам з Богам у жыцьцё ўвайшоў сэнс і адказ на пытаньне: "Дзеля чаго?" Менавіта тады прыйшло рашэньне ісьці ў семінарыю, а разам з гэтым рашэньнем пачуцьцё спакою і шчасьця.

Перад заканчэньнем школы мы задавалі пытаньне адзін аднаму: "Куды?" Мне было прыемна адказваць:

– У семінарыю, на сьвятара.

– Клас! А жаніцца можна?

– Можна.

– Супер!

Зьнешне было супер, але ўнутры захапленьне сабой ужо адкінула, засланіла Хрыста. Я не пайшоў.

Рок-гурты, тусоўкі, зрэдку — у царкву да сяброў. Цыгарэтны дым стаўся больш рэальным сябрам, чым Ісус. Цемра, што была ў закутках сэрца, выходзіла навонкі. Я проста працягваў жыць далей, стараючыся мінаць некаторыя пытаньні. А падчас дэпрэсіяў я казаў Яму: "Вызвалі мяне Госпадзе, калі хочаш..."

У жыцьці, бывае, вагаешся, развважаеш, вылічваеш, стараешся даказаць, абаперціся на штосьці па-за Богам. Сэрца не знаходзіць спакою і стараецца вярнуцца да граху. Так моцна любіць сэрца грэх і прывязваецца да яго.

Пасьля я паступіў у вучэльню, скончыў яе і стаў кухарам. Спрабаваў абаперціся на прафесію, на грошы... Гэта была гульня ў хованкі, бо ад Бога нідзе не схавацца. Госпад не адступіўся, і праз некаторы час я зноў сказаў свайму пара-ху, што хачу ісьці ў семінарыю. І ён падтрымаў мяне.

Пасьля адказу на Божы заклік "Так!" прыходзіць супакой, радасьць і шчасьце.

Цьвёрда веру, што Госпад прыйшоў, каб збавіць сьвет: "Абвяшчаць свабоду вязьням, сьляпым зрок, адпусьціць прыгнечаных свабоднымі" *(пар. Лк 4, 18)*.

Шчасьце для мяне – любіць Бога і быць разам з Ім. Мудры Айцец, крыніца кожнага дару, Ён дае і Ён забірае, каб нам узрастаць у любові і абапірацца на Яго з радасьцю і даверам.

**семінарыст Сяргей РАЮНЕЦ**

# Курс сьпеваў для семінарыстаў у Уніве



З 21 па 27 жніўня 2007 году група з 7 семінарыстаў БГКЦ на чале з айцом Аляксандрам Шаўцовым знаходзілася ва Ўсьпенскай Лаўры манахаў-студытаў у Уніве. Тут для іх былі арганізаваны літургічна-музычны курс, які праводзіў манах-студыт



айцец Алег. На працягу тыдня беларускія семінарысты вывучалі васьмітонавы сьпеў.

Падчас курсу, у нядзелю, 26 жніўня, яны пабывалі ў Львове ў царкве сьв. Язафата айцоў рэдэмптарыстаў, дзе памаліліся й пакланіліся мошчам блаславёнага сьвятамучаніка Мікалая Чарнецкага – патрона Цэнтральна-Заходняга Дэканату БГКЦ.

# Манаскія прырачэньні

У манастыры сьв. Герарда айцоў рэдэмптарыстаў усходняга абраду ў м.Кахавіна, што каля Львову, 19 жніўня 2007 году – на сьвята Перамяненьня паводле юльянскага календара – свае першыя манаскія прырачэньні склаў брат Зьміцер Чарнэль, які паходзіць з Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай.

Сёньня ў рэдэмтарыстаў праходзіць фармацыю таксама бр. Апалінар Нікалаеў з Берасьця, які рыхтуецца праз год прыняць малую схіму (скласьці вечныя прырачэньні).



• Манаскія прырачэньні складае брат Зьміцер Чарнэль.

# Аблачыны ў семінарыстаў



• Семінарысты В.Цішко і А.Філіпенка.

Увечары 27 жніўня 2007 году на Вялікай вячэрні сьвята Ўсьпеньняя Багародзіцы ў Сьвята-Усьпенскай Уніўскай Лаўры адбыліся аблачыны некалькіх семінарыстаў БГКЦ. У прысутнасьці групы беларускіх вернікаў, якія бралі ўдзел у пілігрымцы ў Уніў, Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек) урачыста пасьвяціў семінарыскую вопратку для Андрэя Гайдукевіча з Горадні, Аляксея Філіпенкі з Менску і Вінцука Цішко з Маладэчна.

Над выпускам працавалі:
Сяргей РАЮНЕЦ
Аляксей ФІЛІПЕНКА



ПІШЫЦЕ НАМ:
razam@biz.by

«RAZAM»
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA

# Гудагай. Міласэрны позірк Марыі



• Цудатворная ікона Маці Божай у Гудагаі.

***Ёсьць недалёка ад Астраўца, што каля летувіскай мяжы, невялікае мястэчка Гудагай. Ад іншых беларускіх мястэчак яно адрозьніваецца тым, што тут ужо не адно стагоддзе адбываюцца цуды, цуды якія зьвязаны з абразом Маці Божай Шкаплернай.***

Невялічкі цудатворны абраз — яго вышыня 31,2 см і даўжыня 27,7 см – зьяўляецца копіяй з вядомай іконы Маці Божай Уладзімірскай і належыць да іканграфічнага тыпу Элеуса — Замілаваньне. Іконы гэтага тыпу выяўляюць любоў, якая яднае Маці з Сынам. Касьцёлам Адведзінаў Найсьвяцейшай Панны Марыі, дзе месьціцца гэтая сьвятыня, як і парафіяй, апякуюцца айцы кармяліты босыя.

Сёлета, 14-15 ліпеня 2007 году, адбылася ўрачыстасьць каранацыі гэтай, слаўнай сваімі цудамі іконы Багародзіцы. Па запрашэньні манахаў-кармялітаў на гэтай радаснай урачыстасьці ў Гудагаі як прадстаўнікі каталіцкай супольнасьці візантыйскага абраду прысутнічалі і мы, амаль тры дзясяткі грэка-католікаў: з парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці на чале з парахам а. Ігарам Кандрацьевым, а таксама вернікі з Бярозы, Івацэвічаў, Пінску і а. Андрэй Крот з Горадні.

Да касьцёлу, дзе мела праходзіць урачыстасьць каранацыі, мы прыехалі 14 ліпеня ўвечары, каля дзясятай гадзіны. Ён быў напоўнены яшчэ напалову. Але па дарозе мы абагналі шматлікіх пілігрымаў, якія ішлі з навакольных вёсак, і літаральна праз хвілінаў пяць яны ўжо запоўнілі ўвесь касьцёл.

Да набажэнства яшчэ было трошкі часу, і я пачаў аглядаць сьвятыню, якую бачыў упершыню. Невялікі драўляны касьцёл, дзе месьціцца цудатворная ікона Маці Божай, не вызначаецца складанымі архітэктурнымі формамі, але было тут нешта такое, што грэла маю душу, нейкае незямное пачуцьцё таго, што ты апынуўся дома. У сьвятыні я ўбачыў тры алтары: галоўны алтар – Адведзінаў Маці Божай Гудагайскай, упрыгожаны драўлянай скульптурай, і яшчэ два па баках – алтар сьвятога Казіміра і алтар Сэрца Ісуса, каля якога сьціпла і разьмясьцілася наша група грэка-католікаў.

Праз некалькі хвілінаў айцец Ігар Кандрацьеў, наш душпастыр з Берасьця, выйшаў і расказаў прыстуным пра грэка-католікаў і пра традыцыю нашай Усходняй Царквы. Таксама ён сказаў, што мы хочам далучыцца да гэтага ўшанаваньня Багародзіцы праз сьпяваньне акафісту Божай Маці. Наш хор засьпяваў, у храме стала ціха, людзі пачалі разам з намі ўзносіць малітвы да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

Акафіст мы адсьпявалі вельмі добра і ўзьнёсла, сэрца маё пачало маліцца. У гэтым малітоўным настроі я разважаў і гаварыў да Бога і Маці Марыі пад цудоўныя сьпевы вячэрняй малітвы братоў-кармялітаў, якія апякуюцца сьвятыняй у Гудагаі, пад псальмы Давідавы, што ліліся з вуснаў сясьцёр-кармялітак. Усе сьпевы (на лаціне і па-беларуску) былі вельмі прыгожыя, але ня гэта было галоўнае. У той момант адчувалася як Марыя глядзіць на нас сваімі сьвятымі вачыма, і ад гэтага сэрца напаўнялася радасьцю, пяшчотай і ласкай Божай.

Начное чуваньне ў касьцёле працягвалася, чакалі Генерала ордэну кармялітаў з Рыму, які затрымліваўся, але, дзякуючы гэтаму ў кожнага была магчымасьць паспавядацца. Сьвятары, якія спавядалі, разьмясьціліся вакол касьцёлу, а ў людзей была магчымасьць паразмаўляць, прывітацца са знаёмымі, парадавацца сьвяту. На вуліцу апусьцілася ноч, было цёмна, але ў вачах тых людзей гарэла сьвятло, у сэрцах была радасьць. Ужо хацелася спаць, хтосьці проста стаміўся, але ўсе мы стаялі тут, каб ушанаваць Багародзіцу Марыю, і Маці Божая была сярод нас, яна ўмацоўвала нас.

Праз некаторы час прыехаў Генерал ордэну кармялітаў, пачалася працэсія, і з касьцёлу вынесьлі цудатворны абраз Маці Божай Гудагайскай. Спачатку прайшлі служкі, потым сьвятары, за якімі несьлі абраз Маці Божай, а адразу за ім ішоў Генерал кармялітаў. Мне пашанцавала трапіць у першыя шэрагі вернікаў, амаль што за айцом-генералам. Цудатворную ікону несьлі, як каўчэг у Ветхім запавеце, па шэсьць служак, якія ўвесь час зьмяняліся. Людзкі хор злучыў галасы вернікаў у адзінай малітве да Дзевы Марыі. Велічнай працэсіяй, што расьцягнулася амаль на кіламетр, са сьвечкамі і паходнямі, якія прыгожа й таямніча зьзялі ў цемры ночы, мы павольна абышлі вакол храму й могілак, а потым падышлі да ўпрыгожанага алтара, што быў зроблены на вуліцы. Генерал айцоў кармялітаў узначаліў сьв. Імшу.

Скончылася багаслужба, і нас гасьцінна прынялі на начлег вернікі з Астраўца.

На наступны дзень была ўрачыстасьць каранацыі іконы Маці Божай Гудагайскай. Перад сьв. Імшой для пілігрымаў, якіх было каля дзесяці тысячаў, амаль гадзіну сьпяваў наш грэка-каталіцкі хор вернікаў. Пілігрымы пачулі глыбокія і пяшчотныя песьні містыкаў Кармелю – сьв. Яна ад Крыжа, сьв. Тэрэзы Авільскай і сьв. Тэрэзы з Лізье. Асабліва крануў многіх вернікаў лацінскага абраду Акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы.

Пачалася ўрачыстая сьв. Імша, у якой бралі ўдзел амаль усе ярархі Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі, было шмат прадстаўнікоў мясцовых уладаў, а народу было так многа, што я амаль нічога ня бачыў, і таму ўважліва лавіў кожнае слова.

Сьвятую Імшу ўзначальваў кардынал Казімір Сьвёнтак. Менавіта ён і каранаваў слаўную сваімі цудамі ікону Маці Божай Гудагайскай. Дарэчы, залатыя кароны для цудатворнага абраза асьвяціў яшчэ Слуга Божы Ян Павел II.

Вельмі зьдзівіла і ўразіла мяне шчырае і пранікнёнае слова архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча з Масквы, які меў казаньне падчас каранацыі. Працяг на с.14 ⇨



• 14.07.2007, м.Гудагай (Астравецкі р-н). Грэка-каталікі сьпяваюць акафіст у гонар Багародзіцы.

# Пасланьне Апостальскага Нунцыя ў Беларусі архібіскупа Марціна Відавіча

## ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ XIII ШТОГАДОВАЙ ПІЛІГРЫМКІ ВЕРНІКАЎ ВІЗАНТЫЙСКАГА АБРАДУ Ў БЕЛАРУСІ

*Віцебск – Полацак, 11-15 ліпеня 2007 г.*

Дарагія браты і сёстры!

"Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца і супольнасьць Сьвятога Духа хай будуць з усімі вамі" *(2 Кар 13, 13).*

1 З глыбіні сэрца вітаю вас усіх разам і кожнага асабіста, памятаючы маю прысутнасьць сярод вас год таму, калі маліўся я з вамі і за вас і служыў з вамі Боскую Літургію.

Гэтым разам мае абавязкі вядуць мяне ў Санктуарыюм Гудагайскай Багародзіцы, ікона Якой – як добра ведаеце – будзе ўрачыста каранаваная "ад імя і з дазволу Найвышэйшага Пантыфіка", на моцы кананічнай згоды, што Біскуп Гарадзенскі Ўладыка Аляксандар Кашкевіч атрымаў 18 траўня 2006 г. Ужо раней Слуга Божы Ян Павел Вялікі 18 кастрычніка 2003 г. – у час аўдыенцыі, дадзенай кармялітам босым з таго ж самога Санктуарыюму – блаславіў карону, якая ад зараз і на будучыню аздобіць старажытную, цудатворную ікону Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

2 У Гудагаі, як пілігрым сярод Народу Божага, што пілігрымуе на зямлі, заступніцтву Найсьвяцейшай Багародзіцы даверу Царкву, што ў Беларусі, гэтую ўзьлюбленую Краіну ды наш еўрапейскі кантынент. Ейнай руплівай апецы даверу ўсіх католікаў Беларусі, як лацінскага або рымскага так і візантыйскага або грэцкага абрадаў, ды ўсіх жыхароў гэтай часткі Еўропы. Ёй, Маці Хрыста і Маці адкупленага чалавецтва, даверу вашыя радасьці і вашыя надзеі, вашыя смуткі і вашыя непакоі, вашыя прагненьні і вашыя спадзяваньні, каб усе яны знайшлі рэха ў Ейным беззаганным Сэрцы і каб Яна прынесла іх Свайму Сыну, Ісусу Хрысту, нашаму Госпаду і Адкупіцелю чалавека.

Калі буду ў Гудагаі, сярод Народу Божага, сабранага вакол Маці Божай, каб скласьці Айцу Ахвяру Хрыста на Крыжы, узьнясу пакорную і гарачую малітву да Хрыста Госпада, Добрага Пастыра *(пар. Ян 10, 1-16)*, каб Ягоныя беларускія вучні заўжды "трывалі ў навуцы апосталаў ды супольнасьці, у ламаньні хлеба і ў малітвах" *(Дз 2, 42)* і каб былі адно, як Айцец ёсьць у Ім і Ён у Айцы, каб паверыў сьвет *(пар. Ян 17, 21).*

Боская Літургія з каранацыяй мясцовай цудатворнай іконы Найсьвяцейшай Багародзіцы ў Гудагаі будзе праходзіць у той жа час, што і Боская Літургія, якую будзеце служыць у Полацку на завяршэньне вашай штогадовай, агульнанацыянальнай Пілігрымкі. Гэта будуць дзьве ідэнтычныя Еўхарыстычныя цэлебрацыі, нават калі яны будуць служыцца паводле дзьвюх розных традыцыяў: адна – гэтая ў Гудагаі – паводле сьвятой рымскай традыцыі, адноўленай Сьвятым Усяленскім Саборам II Ватыканскім, ды другая – гэтая ў Полацку – паводле сьвятой візантыйскай традыцыі. Нават калі яны будуць праходзіць у двух асобных месцах і будуць служыцца дзьвюма асобнымі групамі вернікаў, гэта будуць дзьве ідэнтычныя Цэлебрацыі, адной адзінай "Сьвятой і Беззаганнай Ахвяры" *(Рымскі імшал, 1-ая Еўхарыстычная малітва)*, зьдзейсьненыя адным адзіным Народам Божым "у еднасьці з усім Касьцёлам" *(Там жа)*, як "крыніца і вяршыня ўсяго хрысьціянскага жыцьця" *(Сьвяты Сабор II Ватыканскі, Дагматычная канстытуцыя "Lumen gentium", 11).*

3 З гэтай шчасьлівай нагоды, на завяршэньне вашай XIII-ай штогадовай Пілігрымкі ў Полацак, заахвочваю вас, каб і пасьля вяртаньня да вашых дамоў вы працягвалі духоўную рэфлексію над вымоўным дэвізам, які ў гэтыя дні суправаджаў вашыя крокі, падтрымліваў вас у маршы па сьцежках Беларускай зямлі: "Дзе вера — там і моц" *(сьв. Ян Залатавусны).*

Дакранаючыся да нашых сумленьняў і да нашай хрысьціянскай тоеснасьці сёньня, на парозе Трэцяга тысячагоддзя, гэты дэвіз вядзе нас да рэфлексіі над праграмай, якую на гэты год прапануе нам Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі: "Усе пакліканы да сьвятасьці". Размова ідзе пра моцны заклік памятаць абяцаньні, якія кожны з нас склаў у момант прыняцьця Сьвятога Хросту, і якія маюць быць праграмай жыцьця кожнага хрысьціяніна. Гэта азначае ісьці шляхам Евангельля, прымаючы верай аб'яўленыя праўды ва ўсёй іхняй поўнасьці, без аніякага абмежаваньня, устрыманьня або стаўленьня ўмоваў.

Хрысьціянін, згодна з уласнай прыродай, пакліканы, каб кожнага дня даваць сьведчаньне надзеі, што выплывае з Евангельля, і любові, што ў натуральны спосаб праяўляецца ў дзейснай веры. Немагчыма, сапраўды, заключаць нейкія кампрамісы або няясныя пакты з Евангельлем. Сьвяты Аўгустын засьцерагаў: "Няхай тваё жыцьцё не прыносіць сьведчаньне, якое супярэчыць тваёй мове" *(Sermo 34, 6: CCL 4, 426).* Ад усіх патрабуецца "вера, што дзейнічае праз любоў" *(Гал 5, 6).*

4 Вашая Пілігрымка няхай дапаможа вам адкрыць такую веру; адкрыць каштоўнасьць веры каталіцкай ды багацьце вашага сэрца.

Заахвочваючы вас працягваць ваш шлях веры, надзеі і любові – у поўнай, безумоўнай ды цэласнай вернасьці Евангельлю ды Каталіцкай Царкве,– жадаю вам добрага вяртаньня да вашых дамоў.

Адначасова запэўніваю вас, што Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI ёсьць вам блізкі ў сваёй малітве і сваім блаславенні для ўсіх вас, для вашых сем'яў і вашых парафіяльных Супольнасьцяў.

*У Менску, 11 ліпеня 2007 году Божага,*
*успамін сьв. роўнаапостальнай Вольгі, княгіні Кіеўскай – паводле календара візантыйска-славянскага,*
*і сьвята сьв. Бенядыкта, абата, Патрона Еўропы – паводле календара рымскага.*

**+ Архібіскуп Марцін ВІДАВІЧ**
**Апостальскі Нунцый у Беларусі**

# Гудагай. Міласэрны позірк Марыі

⇨ *Заканчэньне са с.3*

Гаварыў ён па-беларуску, а таксама папольску, па-летувіску і па-італійску. Гэта было слова, якое ішло сапраўды ад сэрца. Архібіскуп дзякаваў Багародзіцы Марыі, бо ўласна тут, ля яе цудатворнай іконы ў Гудагаі, ён прымаў самыя важныя рашэньні ў сваім жыцьці. У яго казаньні таксама закраналіся праблемы чалавека і веры ў сучасным сьвеце, пра якія ён гаварыў часам востра, без прыгладжваньняў, часам з болем, а часам і з гумарам. Адчувалася, што Ўладыка шчыра перажывае за моладзь, за яе будучыню. З пяшчотай ён гаварыў пра неабходнасьць бараніць жыцьцё, якое дае нам Бог і якое ня можа адымаць чалавек. Я вельмі ўдзячны Богу за гэтага чалавека і за яго мудрае пастырскае слова да нас, вернікаў.

Напрыканцы набажэнства было прачытана Пасланьне Апостальскага нунцыя архібіскупа Марціна Відавіча, у якім ён згадаў пілігрымку грэка-католікаў, якія якраз у гэты час ішлі з Віцебску ў Полацак. Я вельмі хацеў пайсьці і ў гэтую пілігрымку, але так атрымалася, што паехаў на каранацыю ў Гудагай. Мне было вельмі прыемна чуць словы Апостальскага нунцыя, які заклікаў духоўна зьяднацца ўсіх прысутных на каранацыі ў Гудагаі з пілігрымамі, што крочылі з Віцебску ў Полацак.

Пасьля заканчэньня імшы разам з нашым душпастырам айцом Ігарам Кандрацьевым мы вырашылі падзякаваць архібіскупу Тадэвушу Кандрусевічу за ягонае слова. Гасьцінныя гаспадары сьвята запрасілі нас на смачны абед, а на разьвітаньне пробашч парафіі ў Гудагаі і айцы-кармяліты сардэчна падзякавалі грэка-католікам за прысутнасьць на ўрачыстасьці каранацыі іконы Маці Божай, за тое, што актыўна ўдзельнічалі ў гэтым сьвяце і ўпрыгожылі яго сваімі сьпевамі і малітвай Акафісту Найсьвяцейшай Багародзіцы.

Прайшла ўрачыстасьць, сьвята скончылася і цяпер я зноў у Берасьці, гляджу на абраз Маці Божай Шкаплернай з Гудагая... Радасьць і адчуваньне сапраўднага сьвята — усё гэта засталося і жыве ў маім сэрцы ды напаўняе яго Божай любоўю. Калі я гляджу на гэтую ікону — узгадваю хвіліны незямнога шчасьця і Божай прысутнасьці, і на душы становіцца лёгка і радасна. Я дзякую Богу за тое сьвята ў Гудагаі, якое падаравала нам Маці Божая, і спадзяюся на тое, што падзяліўся і з вамі гэтай радасьцю.

**Аляксандр КРАСОЎСКІ**
*г.Берасьце*



• Будслаў, 2.07.2007. Прымiцыйная Боская Літургія новасьвятара а. Яўгена Усошына ля алтара Маці Божай Будслаўскай.

# Грэка-каталікі ў Будславе

***1-2 ліпеня 2007 году вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы па традыцыі далучыліся да ўрачыстасьцяў з нагоды сьвята іконы Маці Божай Будслаўскай.***

Як і штогод, шматлікія ручаі пілігрымаў з розных куткоў Беларусі сустрэліся ў Будславе і, як рака ў час паводкі, напоўнілі невялікае, але слаўнае беларускае мястэчка. З Менску на сьвята ў Будслаў увечары ў нядзелю, 1 ліпеня, прыбыў аўтобус з грэка-каталіцкімі пілігрымамі, прыкладна ў той самы час прыехалі яшчэ два мікрааўтобусы з вернікамі з Берасьця.

Згодна традыцыі, якая склалася на Будслаўскім фэсьце, заўсёды, блізка апоўначы (а 23-й гадзіне), вернікі візантыйскага абраду сьпяваюць Акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы. Сёлета малітву акафісту ўпершыню ўзначальваў хор вернікаў з берасьцейскай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя, але, як і заўсёды, да гэтага малітоўнага праслаўленьня Багародзіцы мог далучыцца кожны вернік. Пасьля акафісту, на ўзьведзеным каля сьцяны будслаўскае сьвятыні алтары, адбылося асьвячэньне копіі іконы Маці Божай Будслаўскай і затым – працэсія са сьвечкамі сьвятароў і шматлікіх вернікаў абодвух абрадаў, у якой узялі ўдзел і беларускія грэка-каталіцкія сьвятары: дэкан Усходняга протапрэзьбітарату а. Лявонці (Тумоўскі) з Полацку, а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця, а. Аляксандр Шаўцоў з Горадні, а. Андрэй Буйніч і новасьвятар а. Яўген Усошын з Менску. Падчас начнога чуваньня ў галоўным каталіцкім санктуарыюме Маці Божай у Беларусі а 2-й гадзіне ночы грэка-каталіцкія сьвятары адслужылі Боскую Літургію ў візантыйскім абрадзе. Набажэнства каля галоўнага алтара перад цудатворнай іконай Маці Божай Будслаўскай узначальваў нядаўна высьвячаны беларускі грэка-каталіцкі сьвятар а. Яўген Усошын. На літургіі сьпяваў імправізаваны хор, які складаўся пераважна з вернікаў менскай і берасьцейскай парафіяў.

2 ліпеня, у дзень сьвята ў гонар цудатворнай іконы Маці Божай Будслаўскай, а 12-й гадзіне сьвятары і вернікі БГКЦ разам з іншымі пілігрымамі маліліся на ўрачыстай сьв. Імшы, якую ўзначальваў Апостальскі Нунцый архібіскуп Марцін Відавіч. Сьвятую Імшу з ім саслужыў амаль увесь епіскапат Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Разам з ярархамі лацінскага абраду саслужыў таксама і Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек). Наогул у Будслаўскім фэсьце ў гонар Багародзіцы сёлета ўзялі ўдзел каля сарака тысячаў вернікаў, прычым, па даўняй традыцыі, ня толькі католікоў абодвух абрадаў, але і праваслаўных.

**а. Андрэй БУЙНІЧ,** *г.Менск*

# "Еднасьць Касьцёлу – гэта заданьне, якое трэба рашаць штодзённа, дзень за днём"

**Прывітальнае Слова Апостальскага Нунцыя ў Беларусі на ўрачыстасьці ў Гудагаі**

Дарагія браты і сёстры!

**1.** Вы толькі што выслухалі Пасланьне, якое я даслаў да ўдзельнікаў XIII штогадовай Пілігрымкі вернікаў візантыйскага абраду ў Беларусі, што сёньня заканчваецца ў Полацку. Я хацеў, каб гэтае Пасланьне было зачытана таксама і тут, у Гудагаі, каб падкрэсьліць, што размова ідзе пра адзін адзіны Народ Божы, сабраны Хрыстом – гэта значыць пра адзіны, сьвяты, каталіцкі і апостальскі Касьцёл гэтай дарагой Краіны.

Гэта адказ на гарачую малітву Ісуса на Апошняй Вячэры, малітву аб еднасьці ягоных вучняў *(пар. Ян 17, 21).* Мы пакліканыя маліцца няспынна за такую еднасьць і абавязаныя канкрэтна дзейнічаць дзеля яе. Нас ня могуць не кранаць словы і зьмест узгаданай вышэй малітвы нашага Госпада і Пана Ісуса Хрыста. Еднасьць Касьцёлу – гэта заданьне, якое трэба рашаць штодзённа, дзень за днём. Яна выяўляе, на колькі мы зьяўляемся аўтэнтычнымі вучнямі Хрыста.

**2.** Сардэчна вітаю ўсіх і кожнага з вас, як рымскага ці лацінскага абраду, так і візантыйскага ці грэцкага абраду.

Вітаю таксама ўсіх жыхароў Гудагая, Гарадзенскай вобласьці і Астравецкага раёну. Вітаю ўсіх католікаў і праваслаўных.

З павагай вітаю ўсе грамадзянскія ўлады Гудагая, як і ўсёй Гарадзенскай вобласьці і Астравецкага раёну.

Мае дарагія, няхай на жыцьцёвым шляху ўсім вам і вашым сем'ям дапамагае магутнае заступніцтва Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, Маці Божай Гудагайскай.

**3.** Я хацеў бы прывітаць нашых гасьцей, што прыбылі з блізкай Польшчы і блізкай Літвы, каб разам з намі скласьці пашану Маці Божай.

*На польскай мове:*

Pozdrawiam serdecznie wszystkich pielgrzymów przybyłych z Polski. Szczęść Boże!

*На летувіскай мове:*

Nuoširdžiai sveikinu pieligrimus iš Lietuvos.

Сардэчна дзякую за ўвагу. Да пабачэньня. З Богам!



• 15.07.2007, м.Гудагай. Канцэрт грэка-каталіцкага хору з Берасьця перад каранацыйнай сьв. Імшой.

# Дзень памяці

## рэпрэсаваных сьвятароў

***26 жніўня 2007 году, у 70-ую гадавіну трагічных падзеяў, калі ў менскай вязьніцы НКВД былі расстраляныя апошнія каталіцкія сьвятары Менску, вернікі ўсіх парафіяў сталіцы маліліся за ахвяры рэпрэсіяў.***

З гэтай нагоды Апостальскі Адміністратар Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі біскуп Антон Дзям'янка правёў набажэнствы ў некаторых менскіх касьцёлах, дзе служылі рэпрэсаваныя сьвятары.

*Паводле Catholic.by*




# Menologion - калядар літургічнага ўспаміну сьвятых Усходняй Царквы

**Парафія сьв. Мікіты ў Кастамлотах – адзіная на Падляшшы каталіцкая парафія візантыйскага абраду, якая ацалела пасьля Другой усясьветнай вайны ў Польшчы – выпусьціла ў сьвет Menologion, што значыць – «Месяцаслоў». Гэтая кніга зьмяшчае тэксты малітваў Усходняй Царквы на ўвесь літургічны год. Складальнікам Месяцаслову стаў парах кастамлоцкай парафіі айцец-архімандрыт Раман Пентка.**

Гэтая літургічная кніга выйшла па-польску і разьлічана найперш на тых, хто хоча ў Польшчы бліжэй пазнаёміцца з візантыйскай традыцыяй, аднак не валодае царкоўнаславянскай мовай. Але і ў Беларусі Меналагіён, выдадзены а. Раманам Пенткам, безумоўна, будзе карысны як для вернікаў і духавенства Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы (асабліва пры падрыхтоўцы беларускага Месяцаслову), так і для рыма-каталікоў, якія жадаюць бліжэй пазнаёміцца з усходняй царкоўнай традыцыяй. Трэба адзначыць таксама, што Месяцаслоў, выдадзены праваслаўнымі на царкоўна-славянскай мове, маладаступны па кошце, грувасткі, а галоўнае, не ўтрымлівае згадак многіх сьвятых, шанаваных у нашай Царкве.

У Прадмове да выданьня складальнік Меналагіёну найперш знаёміць чытача з тым, што ўяўляе сабой літургічная малітва і літургічны год ва Ўсходняй Царкве: «Літургічная малітва ўключае два віды абрадаў: адныя спраўляюцца з пэўных нагодаў, на зычэньне вернікаў, такія як розныя таінствы (за выключэньнем Еўхарыстыі), сакраменталіі (асьвячэньні), благаславеньні і іншыя абрады; іншыя – рэгулярна паўтараюцца ў вызначаныя дні і гадзіны: гэта Літургія Гадзінаў і Еўхарыстычная Літургія.

Абрады, што зьдзяйсьняюцца рэгулярна і нават штодня, складаюцца з двух частак: адна частка ўтрымлівае сталыя, нязьменныя элементы, якія называюць агульнымі; другая – гэта элементы асаблівыя або ўласныя, якія зьмяняюцца ў залежнасьці ад надыходзячых адно за адным цыклаў літургічнага году.

У візантыйскім абрадзе літургічны год складаецца з чатырох цыклаў, якія наўзаем пранікаюць і накладаюцца, каб надаць літургічнай малітве яе асаблівы, бясконца разнастайны і далёкі ад манатоннасьці характар.

1. Існуе, найперш, тыднёвы цыкл, які зьвязвае з кожным днём тыдня ўспамін нейкай канкрэтнай таямніцы веры, сьвятога альбо групы сьвятых. Вось жа, нядзеля прысьвечана ўспаміну Ўваскрэсеньня Хрыстова; панядзелак – анёлам; аўторак і серада нагадваюць пра Сьвяты Крыж Гасподні; у чацьвер аддаецца пашана апосталам, цудатворцам і сьвятым біскупам, асабліва сьв. Мікалаю; у суботу ўзгадваюцца ўсе сьвятыя і памёрлыя. Пра Маці Божую ж наогул ніколі не забываем – Яе ўзгадваем штодня ва ўсіх набажэнствах, а асабліва – у нядзелю, у сераду і ў пятніцу, у сувязі з Яе ўдзелам у таямніцы Адкупленьня.

2. На другім месцы маем васьмітыднёвы цыкл, званы цыклам актоіха – літургічнае кнігі, дзе тыдні разьмеркаваныя ў адпаведнасьці з васьмю расьпевамі, або тонамі, візантыйскае літургічнае музыкі. Серыя з васьмі тыдняў, або васьмі таноў, пачынаецца з нядзелі сьв. Тамаша, наступнай пасьля Пасхальнай нядзелі.

3. Сьледам ідзе гадавы цыкл рухомых сьвятаў, цалкам згрупаваных вакол Пасхі. Ён ахоплівае 18 тыдняў: 10 тыдняў падрыхтоўкі да Пасхі, або перыяд Трыёдзі Посная (літургічнай кнігі візантыйскага абраду, якая зьмяшчае парадак і зьменныя тэксты набажэнстваў на перыяд Вялікага посту і тыдняў, што папярэднічаюць яму – *П.М.*), і 8 тыдняў Кветнай Трыёдзі (літургічнай кнігі, якая зьмяшчае парадак і зьменныя тэксты Велікоднага перыяду), г. зн. перыяду, які доўжыцца ад нядзелі Вялікадня да нядзелі Ўсіх сьвятых, наступнай пасьля сьвята Тройцы.


• *Архімандрыт Раман Пентка.*

4. І нарэшце, гадавы цыкл сталых сьвятаў, або каляндар літургічнага ўспаміну сьвятых – Меналагіён (ад грэцк. *men* – «месяц» і *logion* – «выказваньне», «слова», «прамова» – *П.М.*), што значыць Месяцаслоў. Пры гэтым у візантыйскім абрадзе літургічны год пачынаецца 1 верасьня і заканчваецца 31 жніўня».

Падкрэсьліваючы значэньне працы, выкананай а. Раманам Пенткам па падрыхтоўцы і выданьні Меналагіёну, Каталіцкае Радыё Падляшша, з нагоды выхаду гэтай літургічнай кнігі, адзначае: «Меналагіён – гэта абсалютная прэм'ера. У Польшчы яшчэ не было такіх працаў, такіх публікацыяў, датычных сьвятых, якіх ушаноўвае Ўсходняя Царква». У інтэрв'ю гэтаму радыё а. Раман Пентка заўважыў: «Большасьць сьвятых, якія фігуруюць у сьпісе рыма-каталіцкага і грэцкага абрадаў, ідэнтычныя: апосталы, Айцы Царквы, а таксама асноўныя хрысьціянскія сьвяты Гасподнія альбо Багародзічныя. Але ў грэцкім календары ёсьць яшчэ мноства сьвятых, якіх ня згадвае каляндар Рыма-Каталіцкай Царквы. І гэты факт (выхад Меналагіёну – *А.М.*) раней небывалы, бо ў рыма-каталікоў зьявілася магчымасьць пазнаёміцца з асобамі тых сьвятых, якіх ушаноўвае грэцкая частка хрысьціянства, такой кніжкі папольску яшчэ не было...»

Распавядаючы пра структуру выдадзенага ім Месяцаслову, а. Раман Пентка сказаў: «Адпраўным пунктам структуры Меналагіёну ўзятыя месяцы і дні месяцаў. У пачатку кожнага дня месяцу згаданыя сьвятыя, якія ўспамінаюцца ў гэты дзень, затым – іх жыцьцяпіс, пададзены ў кантэксьце літургічных тэкстаў. Пасьля жыцьцяпісу сьвятога даюцца пераклады з грэцкай або са стараславянскай на польскую мову літургічныя тэксты, патрэбныя для адпраўленьня сьв. Літургіі, але не для Службы Гадзінаў, бо тады гэта выйшла б дваццаць пяць тамоў... У гэтым Меналагіёне я, зразумела, зьмясьціў і Пратулінскіх мучанікаў, якіх ушаноўвае і рыма-каталіцкая частка Царквы, і наша грэка-каталіцкая. Зьмешчаныя тут таксама двое сьвятых, вельмі шчыльна зьвязаныя з Падляшшам, благаслаўлёныя, якіх Папа беатыфікаваў у 2001 годзе, у чэрвені, калі быў ва Украіне, гэта – бл. Мікалай Чарнецкі, біскуп, і бл. Леанід Фёдараў, які таксама належыць да візантыйскага абраду. Яшчэ адна цікавая дэталь выяўляецца з Меналагіёну: у сьпісе сьвятых праваслаўных Цэркваў, Расейскае, Грэцкае, ёсьць таксама 19 Рымскіх папаў. І гэтыя літургічныя тэксты пра папаў першага тысячагоддзя выкарыстоўвае ў малітвах, моліцца да гэтых папаў Праваслаўная Царква ў Маскве і ва ўсіх астатніх месцах, і ў Грэцыі. Толькі ў грэцкіх Меналагіёнах імёны папаў напісаныя малюсенькімі літарамі, і там мала хто ведае пра тое, што Праваслаўная Царква моліцца і ўшаноўвае Рымскіх папаў».

Але Меналагіён – кніга ня толькі і ня столькі гістарычная, яна можа дапамагчы ў медытацыі, у малітве. «Гэтая кніга ўтрымоўвае ня толькі жыцьцяпісы, але, перш за ўсё, літургічныя тэксты, гэтую паэтычную прозу, і я імкнуўся ў такой паэтычнай прозе перадаць усе гэтыя тэксты, а яны выдатныя. Мне асабіста, падчас усяго майго саракагадовага знаходжаньня ў Кастамлотах, яны давалі сілы вытрымаць, давалі мне для маіх патрэбаў матэрыял аскетычны, тэалагічны, а таксама містычны»,– сьцьвярджае айцец Раман.

Парах парафіі і складальнік Месяцаслову, айцец-архімандрыт Раман Пентка, сёлета адзначыць сваё 70-годдзе. Як заўсёды з усьмешкаю кажа пра сябе а. Раман, нарадзіўся ён роўна праз дваццаць гадоў пасьля кастрычніцкага перавароту – 7 лістапада 1937 году. У 1953 годзе ён паступіў у навіцыят марыянаў, затым вучыўся ў Рыме, у Русікуме. У 1964 годзе Раман Пентка быў высьвячаны на сьвятара. Дарэчы, рукапакладаў яго тагачасны Генерал Ордэну Марыянаў, беларускі біскуп усходняга

# Новы душпастыр у Кастамлотах

***1 верасьня 2007 году адышоў на пенсію шматгадовы парах неаўніяцкай парафіі ў Кастамлотах на Падляшшы (18 км ад Берасьця, на польскім беразе р. Буг) – Архімандрыт Раман Пентка, марыянін.***

Душпастырам у парафіі сьв. Мікіты ў Кастамлотах а. Раман Пентка быў 40 гадоў. За гады яго душпастырства гэтая неаўніяцкая парафія на мяжы Польшчы і Беларусі стала сапраўды духовым цэнтрам сустрэчы Ўсходу і Захаду.

Айцец Раман стварыў у Кастамлотах Санктуарыюм Падляшскіх уніятаў, грунтоўна адрамантаваў стары драўляны храм, спрычыніўся да рэстаўрацыі старажытных уніяцкіх абразоў. Сярод гэтых абразоў варта адзначыць ікону патрона парафіі сьвятога велікамучаніка Мікіты, якую ў 1631 годзе, у часы Уніі, падаравала для царквы ў Кастамлотах "Хведора з Прылук" (з прыбужскай вёскі каля Берасьця).

Намаганьнямі а. Рамана Пенткі пры парафіі быў створаны Міжнародны экуменічны цэнтр *Nicetianum*, у якім вось ужо на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў сустракаюцца вернікі розных Цэркваў ня толькі з Польшчы, але і з Беларусі, Украіны, Чэхіі, Славакіі, Расеі, краінаў Балтыі, Германіі, Францыі, Італіі, Бельгіі, Велікабрытаніі, Мальты і іншых краінаў Еўропы.

Ад пачатку 1990-х гадоў архім. Раман гасьцінна адчыніў дзьверы кастамлоцкага храму і парафіяльнага будынку для шматлікіх беларусаў. Тут шматразова ладзіліся катэхетычныя летнікі для беларускай грэка-каталіцкай моладзі, сюды прыязджалі беларускія пілігрымы, каб памаліцца Санктуарыюме Падляшскіх уніятаў, тут праходзілі літургічную практыку семінарысты БГКЦ.

Архімандрыт Раман зьяўляецца вучнем беларускіх марыянаў Тамаша Падзявы і Язэпа Германовіча, а на служэньне ў Кастамлотах блаславіў яго ў 1967 годзе Ўладыка Чэслаў Сіповіч, які ў той час быў Генеральным суперыёрам Ордэну Марыянаў.

У нядзелю, 9 верасьня 2007 году, у рамках Патранальнаяга сьвята парафіі – сьвята велікамучаніка Мікіты, парафіяне і шматлікія сябры кастамлоцкай парафіі разьвіталіся з Архімандрытам Раманам і прывіталі новага душпастыра – айца Зьбігнева Ніканюка, прызначанага Седлецкім рыма-каталіцкім біскупам Зьбігневам Кернікоўскім, якому Кангрэгацыя Ўсходніх Цэркваў даручыла біскупскую апеку над парафіяй у Кастамлотах. Айцец Зьбігнеў Ніканюк паходзіць з іншай прыбужскай вёскі – Пратулін, якая дала Паўсюднай Царкве Пратулінскіх мучанікаў. Ён – нашчадак уніятаў, што сталі мучанікамі за сваю веру.

9 верасьня на сьвяце ў Кастамлотах удзельнічала група пілігрымаў з Беларусі, у тым ліку – семінарысты БГКЦ, што вучацца ў Драгічыне над Бугам (Польшча). Групу беларускіх пілігрымаў узначальваў Апостальскі Візітатар архім. Сяргей (Гаек).



• 09.09.2007, Кастамлоты (Польшча). Новы душпастыр прыбужскіх уніятаў а. Зьбігнеў Ніканюк.

Дастойнаму Архімандрыту Раману выказваем ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ, а новаму параху ўніяцкай парафіі ў Кастамлотах жадаем Божага блаславеньня "на многія леты!"

Новапрызначаны кастамлоцкі парах ужо пасьпеў пазнаёміцца з нашай Царквой у Беларусі – ён прымаў удзел у пілігрымцы Віцебск – Полацак у ліпені гэтага году. Разьвітваючыся з беларускімі пілігрымамі, ён сказаў: "Кастамлоты і надалей чакаюць братоў і сёстраў з Беларусі!"

**С. Г.**

абраду Чэслаў Сіповіч. Наогул, усходнім абрадам ён зацікавіўся дзякуючы беларускаму сьвятару-марыяніну а. Тамашу Падзяву. Апошні ўсё жыцьцё марыў служыць ва ўсходнім абрадзе для свайго народу, аднак працаваць яму давялося далёка ад Бацькаўшчыны. З 1935 году ён быў на місіі ў Харбіне, дзе пасьля вайны быў арыштаваны кітайскімі камуністамі і кінуты ў савецкія лагеры. У 1955 годзе, калі вызваліўся, ён трапіў у Польшчу. У семінарыі, дзе вучыўся Раман Пентка, а. Тамаш Падзява выкладаў латынь. Уласна з гэтага часу пачалося іх знаёмства і Раман Пентка так пранікся духоўнай спадчынай хрысьціянскага Ўсходу ды справай еднасьці, што вырашыў прысьвяціць гэтаму ўсё свае сьвятарскае служэньне. Яшчэ адзін цікавы факт з яго біяграфіі: ужо ў нашыя дні а. Раман Пентка, каб ушанаваць памяць свайго настаўніка, падрыхтаваў да друку кнігу «Демьян, или Почему люди стали верить в Бога». Знаходзячыся ў лагерах, каб падтрымаць у людзях веру ў Бога, а. Тамаш Падзява ў выглядзе вершаў выклаў па памяці вядомы ў міжваенны час антыатэістычны сатырычны твор, выдадзены, верагодна, пад псеўданімам «В.Мельников». Ён запісваў сваю паэму на абрыўках паперы ў перапынках паміж цяжкай лагернай працай, пазьней яе ўдалося запісаць у сшытак і захаваць як помнік той смутнай эпохі.

З 1967 году, на працягу сарака гадоў, а. Раман Пентка быў нязьменным пробашчам неаўніяцкай парафіі ў Кастамлотах. У 1998 годзе Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Сільвестрыні ўзьвёў а. Рамана ў сан архімандрыта.

За гады сваёй душпастырскай працы архім. Раман Пентка шмат зрабіў, каб польскае грамадзтва, выхаванае ў лацінскай традыцыі, ня толькі бліжэй пазнаёмілася з усходнім хрысьціянствам, але і магло карыстацца такім багатым скарбам, такім выдатным сьветам хрысьціянскае культуры Ўсходу. І гэтай справе, безумоўна, будзе служыць выдадзены сёлета ім Menologion-Месяцаслоў.

**а. Пётр (Анры) МАРТЭН**
*г.Магілёў*

## ГОЛАС СЭРЦА

### ПА ШЛЯХУ КІТАЙ – СІБІР – МАСКВА

Гарэла сэрца, як Зьніч адвечны,
ў дакор пагрозам белае сьмерці,
сілай і вераю нечалавечай
гарэла сэрца!

*Л. Геніюш*

I

Гэтым сьветам кіруюць
мудрыя законы быцьця:
цяпло атуляе сьцюжу,
сьвятло асьляпляе цемру.
Нават на воўчыя зубы
знойдуцца заячыя ногі.
А як ратавацца ад Зьвязу,
дзе ўсе – вязьні,
за сьцяной,
дзе пануюць вар'яцтва і
абсурд?

II

Чэрствы кавалак хлеба –
Хрыстова Цела.
Віно з разынкаў
стала Хрыстовай Крывёю.
І несупынная малітва
да неба, укрыжаванага
кратамі.
Гэтага адабраць
перакулены сьвет
ня здолеў.
Бо гэта і была зброя.

III

Восеньскі вецер
гуляе гурбаю сухога
лісьця.
Раптам узьнімае ў паветра
адзін сухі лісток і
кідае мне пад ногі.
Чытаю гэты пажаўцелы
ад часу ліст!
"Я ўжо вольны птах.
Я абскубаны, пагрызены,
зьнявечаны птах-калека,
што застаўся звацца
Адважным".

**Алеся БЯЛЕНІК** *(г.Горадня).*
*З любоўю і павагай да шаноўнай сям'і а. Андрэя Крата.*

Янка ТРАЦЯК

# Біблія у беларускім перакладзе: праблема высокага стылю

Патрэба Кніг Старога і Новага Запавету, літургічных тэкстаў, катэхізісу, малітоўнікаў, багаслоўскіх тэкстаў і іншай рэлігійнай літаратуры на роднай мове зьяўляецца істотнай адзнакай духоўнага адраджэньня кожнага народу. Патрэба гэта вынікае з біблейскіх тэкстаў і зьяўляецца непасрэдным абавязкам апостальскай дзейнасьці.

"Выданьне Бібліі ці толькі Новага Запавету па-беларуску было ў поўным сэнсе актам самасьцьвярджэньня, прызнаньня, што "хлопская мова", нізкая гаворка, якою пагарджалі расейцы і палякі, была сапраўднай мовай, ня толькі здатнаю выказваць думкі паэтычнага генія – да прыкладу, Купалы ці Коласа, – але і вартаю данесьці пасланьне Слова Божага народу сялянскай Беларусі і ўсяму сьвету".

У 1920-1930-ыя гады ідэя перакладу і гістарычная інтэрпрэтацыя на беларускай мове Сьвятога Пісьма становяцца нацыянальнай справай. Цікавіла яна і такіх вядомых беларускіх дзеячаў, як Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Радаслаў Астроўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Гальяш Леўчык, Аляксандр Уласаў, Кастусь Езавітаў. У праваслаўным асяродку да гэтай справы далучыліся сьвятар Васіль Раманоўскі і Сяргей Паўловіч. У пратэстанцкім асяродку адным з першых, хто зьвярнуўся да ідэі перакладу, быў Лукаш Дзекуць-Малей; ён перадаў свае пераклады з стараславянскай мовы Новага Запавету Антону Луцкевічу, і той захапіўся працай, бо ўбачыў у перакладзе ня толькі сродак сьцьвярджэньня і прызнаньня беларускай мовы, абуджэньне нацыянальнага гонару, але і сродак паяднаньня беларускага народу. Сярод каталіцкага духавенства найбольш чынна працаваў у гэтым кірунку беларускі рымска-каталіцкі сьвятар Вінцэнт Гадлеўскі. У эміграцыі перакладамі біблейскіх тэкстаў займаліся а. Пётра Татарыновіч, Ян Станкевіч, а. Леў Гарошка, а. Аляксандр Надсан, Ян Пятроўскі, архіяпіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалай (Мацукевіч). Пасьля адпаведнага закону ў СССР аб веравызнаньнях (1986 г.) да перакладу Бібліі зьвярнуліся Анатоль Клышка, Васіль Сёмуха, а. Уладзіслаў Чарняўскі. Нарэшце, у 2002 годзе выйшаў беларускамоўны кананічны тэкст Бібліі ў перакладзе Васіля Сёмухі. Вялікая заслуга ўсіх перакладальнікаў у тым, што яны паказалі лінгвістычныя (граматычныя, сінтаксічныя, лексіка-семантычныя) магчымасьці беларускай мовы ў жанры біблійнай гісторыі.

Тым ня менш, праблема высокага стылю беларускай мовы была і застаецца ў перакладных тэкстах Бібліі найбольш актуальнай і складанай праблемай для беларускіх перакладальнікаў і мовазнаўцаў. Адзначым толькі некаторыя моманты. Так, Францішак Скарына для перадачы рэлігійна-царкоўнай тэрміналогіі карыстаўся царкоўнаславянскай лексікай. Але менавіта Францішак Скарына – першы, хто спрабаваў знайсьці беларускія адпаведнікі царкоўнаславянізмам. Да прыкладу: "Збавителю наш, Господи Ісусе Христе... Серце имаши отворёно, хотяй ласку свою всем дати... Ныне молю ти ся... услыши и прими молитвы моя, подай мне ласку свою..." *(Малая падарожная кніжыца. Вильна, 1522)*. А таму слушна заўважае а. Аляксандр Надсан: "Няма ніякай патрэбы ўводзіць у беларускую мову слова "благадаць", калі ў ёй ёсьць прыгожае слова "ласка", якое сустракаецца ўжо ў Францішка Скарыны...". Так і зрабілі ў сваіх перакладных тэкстах Антон Луцкевіч ("І ад поўнасьці Яго ўсе мы прынялі ласку на ласку...". *Ян 1, 16.*), а.Вінцэнт Гадлеўскі і а.Уладзіслаў Чарняўскі. (У расейскамоўным перакладзе: "И от полноты Его все мы приняли и благодать на благодать"). А вось у В.Сёмухі гучыць так: "І ад паўнаты Яго ўсе мы прынялі і мілату да мілаты" *(Ян 1, 16)*. Розьніца між Божай ласкай і Божай мілатой, можа, і не такая вялікая, але ў выпадку з "мілатой" адчуваецца нейкая штучнасьць і адцягнутасьць. Цяжка зразумець, што гэта такое "мілата Божая асьвячальная", хаця ўсё становіцца на сваё месца, калі скажам: "ласка Божая асьвячальная".

Увогуле, найбольшая блытаніна ўзьнікае з царкоўнаславянскімі складанымі словамі, у якіх першай часткай выступае слова "благо..." і вытворныя ад яго (слова "благі" ў беларускай мове мае адваротнае значэньне). Так, у Нагорным казаньні Ісуса Хрыста часта паўтараецца слова "блаженны" *(Мц 5, 3-11)*. Да прыкладу, у расейскім перакладзе: "Блаженны алчущие и жаждущие правды, ибо они насытятся" *(Мф 5, 6)*. Беларускія перакладальнікі прапанавалі некалькі варыянтаў: "Шчасьлівыя галодныя і прагнучыя праўды, бо яны насыцяцца" *(А.Луцкевіч)*; "Багаслаўлены, каторыя прагнуць і смагнуць справядлівасьці, бо яны будуць насычаны" *(а. В.Гадлеўскі)*; "Дабрашчасныя тыя, хто жадае і прагне праўды, бо яны спатоляцца" *(В.Сёмуха)*; "Шчасныя тыя, што прагнуць і смагнуць справядлівасьці, бо яны насыцяцца" *(а. У.Чарняўскі)*. Як бачым, спроба знайсьці альбо стварыць адпаведнік паводле словаўтваральных прынцыпаў расейскай мовы не зусім адпавядае мілагучнасьці і дакладнасьці сэнсу ("багаслаўлены"), а таксама высокаму стылю ў беларускай мове ("дабрашчасныя"). На наш погляд, больш прымальная форма "шчасьлівыя" *(А.Луцкевіч)*, праўда ў згаданым тэксьце перакладальнік не ўнікнуў двухсэнсоўнасьці: "Шчасьлівыя галодныя і прагнучыя праўды...", такая сэнсавая недакладнасьць выклікае асацыяцыі з фізічным голадам.

Стварае немалыя цяжкасьці пераклад слова "благословить". Айцец А.Надсан у сваіх тэкстах ужывае тэрмін "блаславіць" і аргумэнтуе тым, што гэтае слова зачароўвае мілагучнасьцю, беларускасьцю, зафіксавана ў беларускай літаратуры (Янка Купала і Рыгор Барадулін) і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" *(Мн., 1977. Т.1)*. Тым ня менш, ня ўсе перакладальнікі прызналі гэтае слова вартасным і выкарыстоўваюць словы "багаславіць", што парушае сэнс, альбо "дабраславіць", што не зусім адпавядае патрэбнаму стылю.

А між тым, стыль павінен служыць для паўнавартаснага раскрыцьця сэнсу і ствараць адпаведны ідэал. Тут варта яшчэ раз зьвярнуцца да Бібліі Ф.Скарыны з нагоды эстэтычнага і маральна-этычнага ідэалу, што перадаецца ў тэкстах праз адпаведны пераклад. Упершыню на гэтую праблему зьвярнуў увагу Уладзімір Конан. Дасьледчык прыйшоў да высновы, што ў перакладах Ф.Скарыны выразна "прачытваюцца" дзьве асноўныя крыніцы яго сьветапогляду і асьветніцтва: Біблія ў яе хрысьціянскай інтэрпрэтацыі і рэнесансавая культура з яе культам красы і гармоніі". Да прыкладу: "В начале сотвори Бог небо и Землю. Земля же бе неплодна и неукрашена...". У царкоўнаславянскай Бібліі гэты радок гучыць: "Земля же бе невидима и неустроена..." *(Быт 1, 1-2)*. Сучасныя расейскамоўныя і польскамоўныя Бібліі таксама не падаюць эстэтычнай ацэнкі: "Земля же была безводна и пуста...". Не падаюць такой ацэнкі і нашыя перакладальнікі: "Зямля была пустая і неабжытая; цемра ахутвала бяздонні. А Дух Божы ўзносіўся над водамі" *(а. У.Чарняўскі)*; "А зямля была нябачная і пустая і цемра над безданьню, і Дух Божы лунаў над вадою" *(В.Сёмуха)*. Як бачым, кожны варыянт уносіць сваё адценьне, часам удалае: "неукрашена", "над водамі", "лунаў", а часам не зусім дакладнае і не зусім беларускае: "над вадою", "безданьню". І такіх прыкладаў, дарэчы, вельмі шмат:

"І так чалавек назваў сваімі імёнамі ўсе жывёлы, і ўсе птушкі паднебныя, і ўсе зьвяры палявыя..." *(а. У.Чарняўскі: Кніга Роду 2, 20)*;

"І назваў чалавек імёны ўсяму быдлу і птушкам нябесным, і ўсім зьвярам польным..." *(В.Сёмуха: Быцьцё 2, 20)*;

# Вечная памяць!

***З матэрыялаў газеты беларусаў у вольным сьвеце “Беларус” даведаліся, што сёлета адыйшлі ў вечнасьць некалькі беларускіх дзеячаў нашай дыяспары, якія, не зважаючы на неспрыяльныя абставіны, праз дзесяцігоддзі захоўвалі шчырую любоў да каталіцтва ўсходняга абраду і тым самым сьведчылі пра незьнішчальнасьць нашае Зьяднанае Царквы. Напярэдадні Дзядоў хочам узгадаць добрым словам тых, хто памёр далёка ад роднай зямлі, але, пэўна, сваімі малітвамі вымаліў адраджэньне нашае Царквы на Бацькаўшчыне.***

У Вялікую суботу перад Вялікаднем, 7 красавіка, адыйшла ў вечнасьць, пражыўшы 80 гадоў, **Юзэфа ТАРАСЭВІЧ** (паходзіла з-пад Ліды з в. Клешнякі), сястра беларускага грэка-каталіцкага біскупа Уладзіміра Тарасэвіча. Пахаваная нябожчыца была 13 красавіка на могілках бенедыктынскага манастыра сьв. Пракопа ў Лайл (ЗША), дзе спачываюць абодва яе браты – уладыка Уладзімір ды Францішак, яе маці, а таксама дзядзька – беларускі ўсходне-каталіцкі сьвятар а. Ян Хрызастом Тарасэвіч.

Шмат гадоў спадарыня Юзя жыла і аддана служыла пры грэка-каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы ў Чыкага, якая раней належала беларусам, а цяпер – румынскім грэка-каталікам. У памяць пра яе 15 красавіка, пасьля службы Божай і паніхіды, румынскія браты пры ўдзеле нешматлікіх ужо беларускіх парафіянаў у царкоўнай зале зладзілі памінкі.

22 траўня 2007 году спачыла яшчэ адна адданая беларуская парафіянка ўсходне-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага – **Ванда МАХНАЧ (ЧАРНЭЦКАЯ).**

Нарадзілася яна ў Маскве, у 1919 годзе, у сям'і беларуса і расейкі, да вайны жыла з бацькамі ў Ляхавічах. Яшчэ малой дзяўчынкай яна пазнаёмілася з а. Вячаславам Аношкам (тады ён служыў у ляхавіцкім касьцёле), які пазьней стаў сябрам Рады Беларускага Экзархату Грэка-Каталіцкай Царквы. Ён падтрымаў яе прыродную беларускасьць, і пра гэта спн. Ванда Чарнэцкая з любоўю распавяла ў сваім лісьце, які быў надрукаваны ў газеце “Царква”.

Рыма-каталічка паводле хросту, яна вельмі любіла ўсходні абрад. Маючы вельмі прыгожы альт, разам з мужам Міхасём яна сьпявала ў царкоўным хоры парафіі Хрыста Збаўцы. Медык з адукацыі (студыявала медыцыну яшчэ ў Вільні, ва ўніверсітэце Сьцяпана Батуры, затым у нямецкім Марбургу), яна была сьціплай і годнай беларускай, вызначалася вялікай ахвярнасьцю, за што яе ўсе вельмі паважалі і любілі. Была сярод ахвярадаўцаў Памятнага Еўфрасіньнеўскага Крыжа, які быў усталяваны ў Сьвятыні Пакутнікаў у Мідляндзе (Канада) да 1000-годдзя хрысьціянства ў Беларусі, і ня раз брала ўдзел у беларускіх пілігрымках да гэтай сьвятыні, якія маюць экуменічны характар. Сёлета, на Тройцу, падчас паломніцтва да Беларускага Крыжа пад кіраўніцтвам праваслаўнага сьвятара а. Вячаслава Логіна, пілігрымы маліліся за супакой душы спн. Ванды Махнач-Чарнэцкай.

Бог адвёў ёй у гэтым жыцьці 88 гадоў. Свой вечны супакой яна знайшла побач з магіламі сваякоў на могільніку Гілсайд непадалёку ад Чыкага. Службу за супакой спачылай адслужылі тры сьвятары.

З Аўстраліі прыйшла вестка пра сьмерць палешука-ўніята **Віктара ЛІПСКАГА** (1929-2007). Сябры называлі яго бескампрамісным патрыётам, цьвёрдым, як крэмень. Ягоны бацька і дзед – родам з Альпеня (Століншчына) – былі пісьменнымі людзьмі і аддана працавалі на карысьць Грэка-Каталіцкай Царквы.

20-гадовым хлопцам Віктар Ліпскі апынуўся ў Аўстраліі, працаваў на розных праектах, зарабляючы вялікія грошы ды ўкладаючы іх у свой багаты дом і касу ашчаднасьці. Віктар быў нязьменным сябрам управы Беларускага культурна-грамадзкага клубу ад заснаваньня ў 1973 годзе аж да сваёй сьмерці. Як адзначылі ў некралогу яго сябры, ён ніколі не шкадаваў грошай на грамадзкія справы і заўсёды быў першым на падпісным лісьце ахвяраў на беларускія патрэбы. Увесь час выпісваў беларускія газеты, купляў усё, што выдавалася ў замежжы пра Беларусь, і знаёміў з ім іншых.

Меў сына Віктара і жонку Барбару, а таксама брата ў Польшчы. Памёр раптоўна, пахаваны на беларускай секцыі могілак Руквуд у Сіднэі.

Адчувальнай стратай (і ня толькі для нашае Царквы) у 2007-ым стала сьмерць **Гая дэ ПІКАРДА** (20.07.1931-21.04.2007) – чалавека, які не належаў ад нараджэньня да нашага народу і нашае Царквы, але прысьвяціў служэньню ім большую частку свайго жыцьця. У свае 76 гадоў гэты выдатны беларусіст і знаўца беларускай царкоўнай музыкі з Лондану (паходзіў з сям'і брэтонца-француза і англічанкі ірландзкага паходжаньня) быў яшчэ поўны планаў і творчых задумак. Зробленае ім для прапаганды беларушчыны на Захадзе заслугоўвае на вечную памяць у нашым народзе і нашай Царкве.

Сярод шматлікіх заслугаў Гая дэ Пікарда адзначым тут адну, на нашу думку, ці не найгалоўную (а яго руплівая дзейнасьць адзначана высокімі ўзнагародамі Велікабрытаніі, Францыі, Беларусі ды таксама ЮНЭСКО): уласна дзякуючы яго больш чым саракагадовай працы і энтузіязму ўпершыню была зроблена спроба сабраць па крупінках, апрацаваць і адрадзіць беларускую традыцыю літургічнага сьпеву, якая на працягу многіх гадоў сістэматычна выкаранялася расейскімі ўладамі. У старажытных, найперш супрасьлеўскіх ірмалагіёнах, ён адшукаў сапраўдныя скарбы царкоўнай музыкі, якой зацікавіў заходні сьвет. Ён зрабіў тое, што да яго не зрабіў ніхто нават у Беларусі. Апрацаваныя Гаем дэ Пікарда старажытныя і сучасныя беларускія царкоўныя сьпевы пабачылі сьвет у лонданскім выдавецтве “Божым шляхам” на 400-ыя ўгодкі Берасьцейскай Уніі ў выглядзе кнігі “Сьпевы Боскай Літургіі”. І ўжо толькі за адну гэтую ўнікальную працу Гаю дэ Пікарда належыць вялікая пашана і ўдзячнасьць беларускай Царквы візантыйскага абраду і ўсяго беларускага народу. Яго цікавыя дасьледаваньні і знаходкі ў галіне беларускай царкоўнай музыкі друкаваліся пераважна на Захадзе і маладаступныя ў Беларусі. Таму мы намераны ў хуткім часе на старонках “Царквы” пазнаёміць беларускага чытача з некаторымі з гэтых публікацыяў выдатнага брытанскага дасьледчыка.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

---

“А з жэбра, якое выняў з чалавека, Госпад Бог пабудаваў жанчыну і прывёў яе да чалавека” *(а. У.Чарняўскі: Кніга Роду 2, 22)*;

“І стварыў Гасподзь Бог з рабрыны, узятай у чалавека, жанчыну, і прывёў яе да чалавека” *(В.Сёмуха: Быцьцё 2, 22)*.

Часам некаторыя словы рэжуць вуха, бо яны гучаць надта не пабеларуску. Да такіх слоў можна аднесьці пазычаныя словы з польскай мовы Пан Езус і Баранак Божы, якія і сёньня ўжываюцца пры беларускамоўных набажэнствах у касьцёлах. Між тым, і а. У.Чарняўскі, і В.Сёмуха, як у тэкстах Старога Запавету (гл. папярэднія прыклады), так і Новага Запавету выкарыстоўваюць Госпад і Гасподзь:

“Ня кожны, хто кажа мне: “Госпадзе! Госпадзе!” увойдзе ў Валадарства Нябеснае...” *(а. У.Чарняўскі: Мц 7, 21)*. У А.Луцкевіча і В.Сёмухі замест Валадарства ўжыта Царства. А ў а. В.Гадлеўскага: “Ня ўсякі, хто мне кажа: “Пане, Пане”, увойдзе ў каралеўства нябеснае...”. Ян Станкевіч замест звароту “Пане” і “Госпадзі” ужываў слова “Спадар”.

У чатырох беларускамоўных тэкстах Новага Запавету толькі ў а. В.Гадлеўскага перакладаецца царкоўнаславянскае Агнец як Баранак (“...Вось Баранак Божы, вось, каторы зносіць грэх сьвету” *(Ян 1, 29)*. А.Луцкевіч, В.Сёмуха і а. У.Чарняўскі перакладаюць як Ягня Божае. Хаця, на нашу думку, розьніца між Агнецам і Ягнём істотная. Агнец – гэта тое ягнятка, якое прызначалася да ахвярапрынашэньня праз агонь і тым розьнілася ад іншых ягнят (адсюль і агнец з стараіндыйскай мовы, *Agni* – у ведыйскай і індуісцкай міфалогіі бог агню; даслоўна “агонь”). Зразумела, што этымалогія гэтых аднакаранёвых слоў адна, але ў кантэксьце новазапаветнай літаратуры адчуваецца збой стылю.

Пры чытаньні беларускамоўных тэкстаў Старога і Новага Запаветаў, з аднаго боку, можна толькі ганарыцца багацьцем і лексічнай разнастайнасьцю беларускай мовы, што паказалі перакладальнікі, з другога, хацелася б адзначыць, што перакладальнік павінен тонка адчуваць кожнае слова, добра ведаць ня толькі мову арыгінальных твораў і мову перакладу, але і быць сапраўдным вернікам. Толькі такая сімфонія веды і веры можа быць гарантам найбольш дакладнай перадачы зьместу і існасьці падзеяў і зьяваў біблейскай гісторыі.

*Паводле: Трацяк І.І. Біблія ў беларускім перакладзе: праблема высокага стылю // Надзённыя пытанні лінгвістыкі (да 75-годдзя прафесара П.У.Сцяцко): матэрыялы міжнарод. навук. канф; 11 сакавіка 2005 г. – Гродна: Грду, 2005. – С. 94-98.*







# Сьвячаньні беларускіх сьвятароў у Уніўскай Лаўры



*• 28.08.2007, м.Уніў (Украіна). Новыя сьвятары БГКЦ: дыякан Васіль Ягораў (зьлева) і а. Алесь Шыбека (справа).*











## Скарынаў дар

⇨ *Заканчэньне са с. 1.*

Сёлета споўнілася 485 гадоў, як гэты Скарынаў малітаўнік з тэкстамі царкоўных багаслужбаў візантыйскага абраду пабачыў сьвет у Вільні, у 1522 г. Ён зьмяшчае псалтыр, часасловец і шасьціднёвец, царкоўны каляндар на ўвесь год з пасхаліяй ды акафісты з канонамі. Уласна акафісты найбольш сьведчаць пра прыналежнасьць Скарыны да ўсходняй традыцыі, бо два з іх ён напісаў сам і з дапамогаю акравершу зашыфраваў там сваё імя.

Варта адзначыць, што ўласна ў часы, на якія прыпадае навучаньне Скарыны ў заходніх універсітэтах і яго друкарская дзейнасьць, ярархі Кіеўскай мітраполіі і ўладары ВКЛ вялі перапіску з Рымам, спрабуючы аднавіць Фларэнцкую Унію, каб паяднаць на сваіх землях хрысьціянаў "закону грэцкага" і "закону рымскага". Ці не гэтай самай мэце прысьвяціў сваю асьветніцкую справу Францішак Скарына?

Не для ўласнага гонару, славы або грошай распачаў Скарына сваю друкарскую справу, а найперш на славу Божую ("напред ко чти и к похвале богу в троици единому и пречистой его матери Марии") і для дабра агульнага свайго народу ды з любові да яго мовы ("к пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил"). Магчыма, прыйдзе час і Паўсюдная Царква вызнае заслугі Ф.Скарыны – годнага прадаўжальніка кірыла-мятодаўскай традыцыі – ды абвесьціць яго сьвятым. Словы ж нашага вялікага асьветніка і першадрукара, напісаныя ім амаль паўтысячагоддзя таму ў Прадмове да ўсёй Біблії, застаюцца актуальным напамінам-зваротам да нашага грамадзтва і сёньня: "В сей Книзе всее прироженое мудрости зачало и конець, бог вседержитель познаван бываеть. В сей Книзе вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имають, пописаны суть. [...] Чтимы ж уставичне светое Еувангелие, а чтучи е[го], наследуймы делы нашего ізбавителя Ісуса Христа! А тако с помощию его внийдем в живот вечный и в царство небесное, уготованное ізбранным божиим".

**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 3 (54), 2007*
15.06.07-15.10.07

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 10.04.2006 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй СІДАРОВІЧ (MIC)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 17 чэрвеня 2007 году, а 22-45
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул.Мініна, 23-213, 220014 г.Менск. **Замова №284**
**Аб'ём** – 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 4000 асобнікаў.

***НАШ РАХУНАК:***
***№ 3015200210017***
***у філіяле № 2/01***
***г.Берасьця***
***ЗАТ "Абсалютбанк",***
***МФО 150501242,***
***УНП 200558013***

***Кошт свабодны. Падпісны індэкс 63205. Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем усім ахвярадаўцам!***